Надрукована паводле пастановы Акадэмічнае Рады Беларускае Акадэміі Навук

Друкарня БАН. Заказ № 537.—Галоўлітбел № 506.—Тыраж 1000 экз.

# АД ПРАВАПІСНАЙ КАМІСІІ.

Беларускі правапіс упяршыню быў устаноўлены ў 1918 г. Б. Тарашкевічам у выдадзенай ім у Вільні „Беларускай граматыцы для школ“.

Гэта было па сутнасьці першае сталае афармленьне і нормаваньне беларускага правапісу з падвядзеньнем пад яго навуковае базы, і, такім чынам, з гэтага часу можна датаваць зьяўленьне беларускага правапісу. Праўда, былі і раней спробы такога-ж афармленьня правапісу, але яны былі няўдалымі, і таму ніякага значэньня ня мелі.

Да зьяўленьня правапісу Б. Тарашкевіча беларускі правапіс ня быў сталым, аднолькавым. Розныя выданьні беларускае літаратуры (паасобныя кніжкі і пэрыодычныя выданьні, што выходзілі ў працягу XIX стаг. і ў пачатку XX, ужывалі розныя спосабы напісаньня. Аб гэтым сьведчыць рознасьць правапісу ранейшых выданьняў да 1918 г., як „Сыгнал“ В. Гаршына, выд. ў 1891 г. А. Лявіцкім, або выданьні суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца“ з 1906 г. ў Пецярбурзе, газэты „Наша Доля — Наша Ніва“ ў Вільні з 1906 г.; газэты „Вольная Беларусь“—у Менску і інш.).

Праўда, пазьнейшыя выданьні скарыстоўвалі практыку папярэдняга пісьма, але і ўводзілі некаторыя навіны ў напісаньні. Аднак, ня гледзячы на рознасьць пісьма, ужо ў гэтыя часы можна было адзначыць і нешта супольнае, што яднала ўсе выдавецтвы ў адносінах да беларускага пісьма і тым самым ужо вызначала асноўныя прынцыпы беларускага правапісу—гэта а) увядзеньне аканьня на месцы ненаціскнога „о“, але абмежаваньне яго ў адносінах да „е“, б) адзначэньне мяккасьці зычных у выпадках асыміляцыі і в) этымолёгічнае напісаньне морфолёгічных форм і інш.

Гэтую „практыку нашага пісьменства“ ў значнай меры скарыстаў і Б. Тарашкевіч у сваім правапісе, апрацаваўшы яго згодна з данымі навукі ў сваёй „Беларускай граматыцы для школ“.

Такім чынам правапіс Б. Тарашкевіча зьяўляецца сынтэзам папярэдняе працы паасобных беларускіх выдавецтваў,

абгрунтаваным данымі навукі і прыведзеным у пэўную сыстэму. Гэта забясьпечыла яму той посьпех, які ён і меў з часу свайго зьяўленьня.

Правапіс Б. Тарашкевіча для Савецкай Беларусі быў папулярызаваны ўпяршыню Я. Лёсікам у 1922 г. ў выданьні Беларускага коопэрацыйнага таварыства „Адраджэньне" пад загалоўкам „Я. Лёсік. Практычная граматыка, ч. I". У гэтым выданьні падаецца правапіс Б. Тарашкевіча бяз ніякіх зьмен. Праз гэтае выданьне беларускі правапіс быў прыняты ў школах для навучаньня ортографіі ў межах БССР.

Бяз зьмен правапіс Б. Тарашкевіча папулярызуецца на абшарах Савецкай Беларусі і ў выданьні Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва пад загалоўкам „Я. Лёсік. Беларуская мова. Правапіс. Выд. I. 1923 г."

Аднак далей, пачынаючы з 1925 г., Я. Лёсікам уведзены два новых аддзелы правапісу: а) правапіс складаных слоў, пабудаваны на правіле Б. Тарашкевіча аб правапісе складаных лічэбнікаў і б) правапіс чужаземных слоў, пабудаваны на правілах Б. Тарашкевіча і дапоўнены правіламі з Украінскага правапісу і ўласнымі меркаваньнямі аўтара.

У гэтым зьмененым выглядзе правапіс друкаваўся і далей.

Такім чынам правапіс Б. Тарашкевіча ў падручніках Я. Лёсіка трапіў у шырокія масы Савецкае Беларусі, як абавязковы беларускі правапіс. Няяснасьці ў рэдагаваньні і недастатковая апрацоўка некаторых паасобных пытаньняў правапісу пры масавым ужытку пачалі выклікаць нездаваленьне правапісам, асабліва пасьля пашырэньня БССР у 1924 г., калі патрэбы беларусізацыі выклікалі масавае азнаямленьне з правапісам і тым самым вымагалі ад самога правапісу поўнай дакладнасьці і яснасьці.

Гэтае нездаваленьне ў 1925-26 г. г. знайшло адбітак у беларускім друку, прычым увага была сконцэнтравана галоўным чынам на так званых „Неўстаноўленых выпадках нашага правапісу", спроба апрацоўкі якіх і была дана Я. Лёсікам у памянёным выданьні правапісу, а менавіта: а) правапіс „ў" і „й"; б) правапіс складаных слоў і в) правапіс чужаземных слоў. (Гл. артыкулы: Я. Лёсік. Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу. „Полымя" № 2, 1925 г.; А. В. Багдановіч. Аб неўстаноўленых выпадках нашага правапісу. „Полымя" № 7, 1925 г.; С. Некрашэвіч. Аб пашырэньні аканьня на чужаземныя словы. „Полымя" № 5, 1926 г. і інш. артыкулы ў газ. „Савецкая Беларусь").

Усё гэта ўжо падрыхтавала глебу да пастаноўкі пытаньня аб рэформе беларускага правапісу, якое і было ўзьнята ў друку Я. Лёсікам, прычым ужо даваўся і апрацаваны



Я. і А. Лёсікамі проект рэформы, у якім галоўная ўвага была зьвернута на поўную зьмену правапісу аканьня і правядзеньне фонэтычнага прынцыпу праз увесь правапіс.

Для разгляду гэтага проекту і падрыхтоўкі пытаньня аб рэформе беларускага правапісу да Акадэмічнай Конфэрэнцыі пры Інбелкульце была організавана Правапісная Камісія, якая, аднак, пасьпела да Конфэрэнцыі выдаць некалькі (восем) брошур па пытаньнях правапісу.

У лістападзе 1926 г. адбылася Акадэмічная Конфэрэнцыя па рэформе беларускае графікі і правапісу, на якой, апрача навуковых сіл БССР, прымалі ўдзел і запрошаныя вучоныя РСФСР, УССР і заграніцы. Конфэрэнцыя разгледзела проект рэформы правапісу Я. і А. Лёсікаў і вынесла па некаторых пытаньнях свае пастановы (Гл. Працы Акадэмічнай Конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Выд. Інбелкульту. Менск. 1927 г.). Аднак, проект не ахапіў усіх зьяў правапісу, шмат пытаньняў засталіся неразгледжанымі, чаму працы Конфэрэнцыі і не маглі вырашыць справы рэформы правапісу поўнасьцю. Патрэбна была яшчэ далейшая яго апрацоўка.

З 1-га кастрычніка 1927 г. пры Катэдры жывой беларускай мовы ў Інбелкульце была ўтворана Камісія літаратурнае мовы, якой і было даручана распрацоўка матар'ялаў Акадэмічнае Конфэрэнцыі і канчатковая апрацоўка проекту правапісу. Для гэтае мэты была ўтворана спэцыяльная Правапісная Камісія ў складзе: Старшыні С. Некрашэвіча, Сакратара А. Багдановіча і сяброў: Я. Лёсіка, В. Ластоўскага, П. Бузука, Я. Бялькевіча, Я. Луцэвіча (Я. Купала) і Ў. Чаржынскага.

Камісія пачала працу 7 сьнежня 1927 г. і скончыла 17 красавіка 1929 г., за які час мела 33 пасяджэньні. Вынікам працы Камісіі і зьяўляецца гэты проект правапісу.

Асноўныя прынцыпы і мэтоды працы Камісіі былі вызначаны на пашыраным пасяджэньні Правапіснай Камісіі з удзелам прадстаўнікоў Наркамасьветы, Прэзыдыуму Інбелкульту і членаў клясы філёлёгіі. Гэтыя прынцыпы працы Камісіі формуляваны так:

1. Рэформаваньне правапісу і азбукі разьмежаваць. У першую чаргу прыступіць да рэформы правапісу, абыходзячыся тым альфабэтам, які існуе цяпер.

2. Пастановы і працы Акадэмічнае Конфэрэнцыі па рэформе правапісу і азбукі лічыць не абавязковымі, але аўторытэтным матар'ялам.

3. Прымаючы пад увагу дастатковую навуковую вартасьць правапісу Б. Тарашкевіча і дзесяцігадовую практыку ўжываньня гэтага правапісу, зрабіць толькі: а) некаторыя

папраўкі ў гэтым правапісе ў бок яго спрашчэньня, менавіта ў тых мясцох, дзе практыка паказала іх цяжкасьць або няяснасьць, і б) дапаўненьні — там, дзе яны нераспрацаваны ў Б. Тарашкевіча.

Пры самым разглядзе правапісу Камісія выходзіла з наступных меркаваньняў:

1. У правапісе гукаў прытрымлівацца ў асноўным галоўных прынцыпаў, якія вызначаны Б. Тарашкевічам у яго правапісе: фонэтычнага для галосных гукаў і этымолёгічнага пры напісаньні зычных, робячы адхіленьні ад іх толькі ў тых выпадках, калі гэтага вымагае практыка пісьма або дакладнасьць правіла.

2. Правапіс канчаткаў па магчымасьці падпарадкаваць правапісу гукаў, робячы адхіленьні ў бок этымолёгічнага пісьма там, дзе гэтага будзе вымагаць патрэбнасьць захаваньня формы і практычная зручнасьць.

3. Правапіс чужаземных слоў, які не распрацаваны Б. Тарашкевічам, апрацаваць нанова.

4. Утварыць нанова правапіс уласных іменьняў, прозьвішчаў і географічных назваў, якога разьдзелу зусім няма ў правапісе Б. Тарашкевіча.

5. Наогул пабудаваць правапіс на наступных падставах:

а) Адбіць у правапісе найбольш характэрныя фонэтычныя зьявы вокалізму і консонантызму бел. мовы.

б) Захаваць найбольш характэрныя морфолёгічныя формы ў іх этымолёгічным выглядзе, хоць-бы апошнія сьцісла і не належалі да правапісу.

в) Прымаючы пад увагу дзесяцёхгадовую практыку правапісу Б. Тарашкевіча і практыку папярэдняга пісьма, захоўваць у некаторых выпадках традыцыйнае напісаньне.

г) Імкнуцца, паколькі гэта дапускаецца на аснове вышэйпаказаных прынцыпаў, да магчыма большага спрашчэньня правапісу.

Грунтуючыся на гэтых палажэньнях, Камісія за паказаны тэрмін перагледзела правапіс Б. Тарашкевіча і апрацавала нанова правапіс чужаземных слоў і правапіс уласных іменьняў, а таксама дае проект і правапісу знакаў прыпынку. Апрача гэтага, да правапісу канчаткаў Камісія далучае проект нормаваньня некаторых найбольш характэрных граматычных форм, якія яна лічыла патрэбным разгледзець.

Конкрэтна ў адносінах да правапісу зроблена наступнае:

Правіла 1 рэдагавана паводле Б. Тарашкевіча.

Правіла 2 прынята паводле пастановы Акадэмічнае Конфэрэнцыі. Гэтаму правілу падпарадкаваны і правапіс лічэбнікаў *дзевяць, дзесяць*.



Правіла 3 нанова апрацавана Камісіяй. Увага да гэтага правіла прынята паводле Б. Тарашкевіча.

Правіла 4 пераапрацавана Камісіяй.

Правіла 5 прынята паводле Б. Тарашкевіча.

Правілы 6 і 7 пераапрацаваны Камісіяй.

Правілы 8—18 прыняты паводле Б. Тарашкевіча з унясеньнем некаторых дадаткаў, якіх ня было ў правапісе Б. Тарашкевіча, і большым удакладненьнем гэтага разьдзелу правапісу. Пры апрацаваньні яго Камісія меркавалася наступнымі прынцыпамі: этымолёгічным для пачатку слова (счасаць) і фонэтычным для асноў і суфіксаў (пяшчаны, брацкі).

Правілы 19—24 рэдагаваны паводле Б. Тарашкевіча з унясеньнем некаторых дадаткаў, прынятых сучаснай практыкай пісьма.

Правіла 25 прынята паводле Б. Тарашкевіча.

У правіле 26 прынята ўвага (пасьля 2 а) ў адпаведнасьці да жывога вымаўленьня і значнай пашыранасьці гэтых форм.

Правіла 27 і 28 прыняты паводле Б. Тарашкевіча.

У правіла 29 ўведзены формы на „ай (яй)“ для слоў *коні, грошы, гоні* з прычыны большай пашыранасьці гэтай формы ў азначаных словах.

У правіле 30 для жан. р. з асн. на зычны ў творн. скл. прыняты канчатак „у (ю)“.

Правілы 31, 32, 33 і 34 прыняты паводле Тарашкевіча ў бок іх спрашчэньня

У правіле 35 з запрапанаваных Б. Тарашкевічам паралельных канчаткаў Камісія прыняла найбольш пашыраныя: „аце“, „яце“ для I спраж. і „ыце“, „іце“ для II спраж.

Таксама ў правіле 36 Камісія разьмежавала формы I і II спраж. як у адзін. ліку, гэтак і ў мн., прыняўшы ў аснову формы, больш пашыраныя ў літаратурнай мове.

Правілы 37 і 38 рэдагаваны паводле Б. Тарашкевіча ў бок іх спрашчэньня

Правапіс чужаземных слоў складзены на аснове некаторых заўваг Б. Тарашкевіча і існуючай у нас практыкі пісьма. Бязумоўна, рэгуляваць усе выпадкі правапісу чужаземных слоў немагчыма. Тут дадзены толькі найбольш характэрныя правілы правапісу чужаземных слоў. *Рэшта выпадкаў будзе ўстаноўлена ортографічным слоўнікам, да рэдакцыі якога Камісія прыступае.*

Агульнага, што можна сказаць аб кірунку працы Камісіі адносна чужаземных слоў — гэта наступнае: Камісія па магчымасьці імкнулася падпарадкаваць правапіс чужаземных слоў агульна-беларускаму правапісу.

Правапіс уласных беларускіх іменаў бязумоўна падлягае агульнаму беларускаму правапісу. Аднак, па чыста практыч-

ных меркаваньнях, хаця быць можа і выходзячы за межы сваёй компэтэнцыі, Камісія палічыла патрэбным даць агульнае паказаньне аб напісаньні беларускіх прозьвішчаў, уласных імёнаў і войчастваў.

Правапіс знакаў прыпынку складзены галоўным чынам на падставе інтонацыйнага прынцыпу.

Усе пастановы Камісіі рабіліся простым галасаваньнем. Трэба, аднак, заўважыць, што поўнае згоды паміж сябрамі Камісіі не заўсёды ўдавалася дасягнуць, чаму некаторыя пытаньні разглядаліся па некалькі разоў, што рабіла працу Камісіі вельмі напружанай і цяжкай. У частковасьці такім пытаньнем зьявілася кардынальнае пытаньне беларускага правапісу — правапіс ненаціскнога „е“. Тут сябрамі Камісіі высоўваліся наступныя проекты: 1) „е“ азначаць толькі пад націскам (бе́лы); усякае ж ненаціскное „е“ азначаць літараю „я“; 2) „е, я“ азначаць толькі пад націскам (бе́лы, ся́ду); усякае ненаціскное „е, я“ азначаць новаю літараю ɛ — гукам сярэднім паміж „е-я“ (вɛсна, полɛ, ходзɛць); 3) дапусьціць этымолёгічнае напісаньне „е, я“: весна, мясьнік; 4) дапусьціць азначэньне дысыміляцыйнага яканьня (весна́, вела̀, але вясны̀, вялі́; 5) захаваць правапіс Б. Тарашкевіча. У выніку доўгіх спрэчак па гэтых проектах пагадзіліся на пастанове Акадэмічнае Конфэрэнцыі. Вялікія спрэчкі таксама выклікала пытаньне аб напісаньні пачатковага „у“ і „і“. У першай рэдакцыі Камісіі было прынята, што ўсякае „у“, якое стаіць у пачатку слова або як прыназоўнік, пішацца праз „ў“. Пры пераглядзе гэтага правіла ў другі раз яно было зьменена адпаведна да пастановы Акадэмічнае Конфэрэнцыі. Пры чытаньні проекту ў корэктуры гэтае правіла было зноў зьменена ў адпаведнасьці да рэдакцыі гэтага проекту. Яшчэ большыя спрэчкі выклікала пытаньне аб азначэньні мяккасьці зычных. У першай рэдакцыі Камісія пастанавіла выкінуць „ь“ паміж гэтак званымі падвойнымі зычнымі (колле, здарэнне). Пры пераглядзе гэтага пытаньня ў другі раз яно было прынята ў рэдакцыі Б. Тарашкевіча. Пры чытаньні проекту ў корэктуры Камісія выкінула „ь“ пасьля *з, с, ц, дз* перад мяккімі зычнымі і ётаванымі галоснымі, а таксама паміж так зв. падвойнымі зычнымі. У адпаведнасьці з гэтым рэдагавана правіла 58 чужаземных слоў. Таксама Камісія зьмяніла сваю ранейшую пастанову адносна ўвядзеньня прыназоўніка „ув“ перад словамі, што пачынаюцца з „а“ (ув аднаго, ув агонь, ув адрыне) і інш.

Трэба таксама адзначыць, што некаторыя пастановы Камісіі праходзілі самаю нязначнаю большасьцю галасоў.

Дзеля гэтага Камісія глядзіць на сваю працу, як на проект, які можа быць зьменены Ўрадовай Камісіяй пры



Наркамасьвеце пры канчатковым яго прыняцьці пасьля заключэньняў адпаведных установ НКА, спэцыялістаў і шырокіх грамадзкіх колаў, для карыстаньня якіх гэты правапіс і прызначаецца. Усе заўвагі да проекту Камісія просіць надсылаць у яе адрэс у Беларускую Акадэмію Навук.

Некаторыя члены Камісіі, што ня згодны былі з тымі ці іншымі правіламі проекту, падалі свае паасобныя заўвагі, якія і друкуюцца ў канцы проекту.

Прыклады друкуюцца згодна правапісу гэтага проекту.

# ПРАВАПІС БЕЛАРУСКІХ СЛОЎ.

## І. ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ.

**Правіла 1-ае.** Галосныя *о—э*, *ё* пішуцца толькі пад націскам. Не пад націскам на месцы этымолёгічных *о—э* пішацца літара *а*, а на месцы *ё* літара *е* або *я*, згодна з правілам 2.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| о=а | дом | дамы̀ | э=а | цэ̀ны | цана́ |
| | стол | сталы̀ | | рэ̀кі | ракà |
| | гòры | гарà | | шэ̀пча | шаптàць |
| | го́рад | гарады̀ | | шчэ̀бет | шчабята́ць |
| | жòлуд | жалуды̀ | | чэ̀рап | чарапы̀ |
| | жанòк | сарòчак | | дзярэ̀ | кàжа |
| | вако́н | кнìжак | | ніжэ̀й | го́рай |

**Правіла 2-е.** На месцы ненаціскных галосных *е*, *ё* пішацца літара *я* толькі ў першым складзе перад націскам. Ва ўсіх іншых выпадках пішацца этымолёгічнае *е* як перад націскам, так і пасьля націску, за выключэньнем тых выпадкаў, што паказаны ў правіле 25.

П р ы к л а д ы:

*перад націскам:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| бе́дны | бядà | але: | бедуна́, беднавàты |
| зе́млі | зямлỳ | | землянỳ |
| лес | лясы̀ | | лесуна́ |
| дзе́вяць | дзявỳты | | дзевятнàццаць |
| дзе́сяць | дзясỳты | | дзесятко́вы |
| сёлы | сяло́ | | селянìн |
| сёстры | сястрà | | |
| не: | няхàй, нямà | | |

*пасьля націску:*

| | |
|---|---|
| верабѐй | злóдзей |
| ѐхаць | вы̀ехаць |
| малéнькі | сіненькі |
| вазѐры | вòзера |
| гняздзѐчка | ля̀лечка |
| зямéль | шпìлек |
| нясéш | гуля̀еш |
| нясѐ | гуля̀е |
| нясѐм | гуля̀ем |
| ідзѐм | бра̀знем |
| нясѐце | бра̀знеце |
| балазé | пэ̀ўне |
| бялѐй | мѐней |

*Увага 1.* „Не“ і „без“ у гэтым разе лічацца за склад таго слова, перад якім яны стаяць.

Прыклады:

не — ня бы̀ў
не крычы̀
не знайшла̀
без — бяз нáс
без людзéй
без верацяна̀

*Увага 2.* Да гэтага правіла не належаць тыя выпадкі, калі *я* ў складох перад націскам і пасьля націску стаіць на месцы асноўнага ненаціскнога *я*

Прыклады:

*у аснове:*

мя̀са — мясны́, мясніка̀
пяць — пяцьдзеся̀т
дзяся̀ты — дзéсяць
дзявя̀ты — дзéвяць
пая̀с — пóяс, зáяц, мéсяц, язы̀к, ты̀сяча

*у нязьменных словах:*

пасля̀ — за̀гадзя
хаця̀ — зра̀ння



**Правіла 3.** Складаныя словы падпарадкуюцца агульным правілам аб аканьні (правілы 1 і 2), але ў новатворах, у якіх адчуваюцца абедзьве складовыя часткі, пры асноўным націску на другой частцы слова дапушчаецца напісаньне ненаціскнога *о, э.*

Прыклады:

о=а канава̀л, канавòд, мядзвѐдзь, каламàзь, галапя̀ты, гарбанòсы, даўганòсы, даўгагры̀вы, касавòкі, дабрадзѐй, навабра̀нец, паўгòда, паўпудóвік,

э=а чарнабры̀вы, чарнавóкі, шасцігадóвы,

е=я сямна̀ццаць, васямнáццаць,

о=о чырвонаармѐец, прыродазна̀ўства, трохпавярхóвы, штодзѐнны, цвёрдакры̀лы

э=э чэхаславáцкі, рэдкалìсты.

*Увага.* Лічэбнікі, складаныя з „сот“ і вытворныя ад іх прыметнікі, пішуцца з захаваньнем ненаціскных „о, э (е)“.

Прыклады:

шэсцьсòт, семсòт, восемсòт, дзевяцьсòт, шэсцьсóты, семсóты, восемсòты, дзевяцьсóты.

**Галосныя „у“ і „і“.**

**Правіла 4.** Галосныя „у“, „і“ ў пачатку слоў і асобна (у якасьці прыназоўнікаў) як пасьля зычнага, гэтак і пасьля галоснага папярэдняга слова, пішуцца праз „у“, „і“ (складовыя).

Прыклады:

у=у старая удава, звярні увагу, казалі усе, была у нас, зайшла у хату, сядзела у яме, яна уе вяроўку, была у іх, у 1917 г. у нас абвешчана Савецкая Улада;

скарб удавы, звяртай увагу, сказаць усім, быць у нас, сядзець у хаце, трапіць у яму, быць у іх, ён уе вяроўку;

i=i яна і ён, трэба ісці, старая ігруша.

*Увага.* У вершах дзеля разьмеру ў гэтых выпадках могуць быць „у“ і „і“ нескладовыя (ў, й).

## II. ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ.

**Правіла 5**. Звонкія перад глухімі і ў абсолютным выгучэньні (у канцы слова), а таксама глухія перад звонкімі на пісьме не зьмяняюцца:

П р ы к л а д ы:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| блізка | а ня | бліска | бо | блізенька |
| будка | „ „ | бутка | „ | будачка |
| дзядзька | „ „ | дзяцька | „ | дзядзечка |
| лыжка | „ „ | лышка | „ | лыжачка |
| казка | „ „ | каска | „ | казаць |
| хлеб | „ „ | хлеп | „ | хлеба |
| лёд | „ „ | лёт | „ | лёду |
| ладзь | „ „ | лаць | „ | ладзіць |
| боб | „ „ | боп | „ | бобу |
| еж | „ „ | еш | „ | ежа |
| касьба | „ „ | казьба | „ | касіць |
| просьба | „ „ | прозьба | „ | прасіць |
| пяцьдзясят | „ „ | пядзьдзясят | „ | пяцера |

*Увага 1.* Прыназоўнікі і прыстаўкі, што канчаюцца на „б“ і „д“ (аб, ад, над, пад, прад, перад) на пісьме не зьмяняюць сваіх канцовых зычных „б“ і „д“.

П р ы к л а д ы:

| | |
|---|---|
| аб пень | абсыпаць |
| ад хаты | адкінуць |
| над табою | надкінуць |
| пад табою | падкінуць |
| перад табою | прадстаўнік |

адкуль, адтуль, аддзел.

*Увага 2.* Прыназоўнікі, што канчаюцца на „з“ (з, без, цераз) таксама не зьмяняюць „з“ на „с“, але пры зьлітным іх напісаньні, падобна да прыставак „уз, раз“, перад глухімі зычнымі яны зьмяняюць „з“ на „с“.



П р ы к л а д ы:

| | | |
|---|---|---|
| з сынам | але | ссыпаць, зрабіць |
| з хаты | „ | схапіць, зламаць |
| з плоту | „ | спароць, збіць |
| без цябе | „ | беспераставку, безбаронны |
| цераз плот | „ | церасчур, усход, расход, узгадаваць, раздаць. |

**„ь“ пасьля „з, с, дз, ц“ перад мяккімі зычнымі і ётаванымі галоснымі.**

**Правіла 6**. Перад мяккімі зычнымі і ётаванымі галоснымі „я, е, ю, ё“ пасьля „з, с, ц“ (што з „т“) і „дз“ „ь“ ня пішацца (гл. правіла 7).

**„ь“ паміж мяккімі падвойнымі зычнымі.**

Паміж так зв. мяккімі падвойнымі зычнымі „ь“ таксама ня пішацца.

П р ы к л а д ы:

зняць, звер, сляза, цвісці, дзве, дзверы, скінуць, згінуць, схіліць.

вяселле, галлё, ралля, соллю, ллецца, застолле;
здарэнне, насенне, пытанне, чытанне, сумленне;
калоссе, валоссе, кассё;
смецце, вецце, багацце, жыццё, куцця;
граззю, маззю, рыззё;
судздзя, бязлюдздзе, разводздзе;
асенні, вясенні.

**Апостраф перад ётаванымі галоснымі.**

**Правіла 7**. Пасьля цьвёрдых і мяккіх зычных перад ётаванымі галоснымі пішацца апостраф (’).

П р ы к л а д ы:

| | |
|---|---|
| б‘ю | бязрыб‘е |
| п‘ю | дуб‘ё |
| п‘яўка | аб‘ява |
| лам‘ё | пер‘е |
| сям‘я | бязвер‘е |
| сям‘і | бязвер‘я |
| пад‘есці | прад‘явіць |
| з‘езд | з‘явіўся |
| з‘еў | раз‘юшаны, з‘яе |

*Увага:* „в“ перад ётаванымі галоснымі пераходзіць у „ў“.

Прыклады:

| | | |
|---|---|---|
| здаровы | — | здароўе |
| муравей | — | мураўі |

**Асыміляцыя зычных у розных злучэньнях.**

**Злучэньні „тц, дц, чц" і інш.**

**Правіла 8.** Злучэньні „тц, тч, дц, дч, чц (што з „тк, дк і чк") пішуцца як „тц, дц, чц, тч, дч".

Прыклады:

| | | |
|---|---|---|
| вопратка | — | вопратцы |
| матка | — | матцы, матчын |
| загадка | — | загадцы |
| суседка | — | суседцы, суседчын |
| дачка | — | дачцэ |
| качка | — | качцы |
| сарочка | — | сарочцы |
| рэдзка | — | рэдзчына. |

*Увага.* Адпаведныя злучэньні ў лічэбніках 11, 20 і 30 пішуцца праз „цц".

Прыклады:

дваццаць, пятнаццаць, трыццаць, сямнаццаць, васямнаццаць.

**Злуч. „сч" і „хч".**

**Правіла 9.** Злучэньні „сч" (што з „ск") і „хч" пішуцца праз „шч".

Прыклады:

| | | |
|---|---|---|
| пясок | — | пяшчаны |
| ласка | — | лашчыцца |
| воск | — | вашчына |
| трэск | — | трашчаць |
| піск | — | пішчаць |
| польскі | — | Польшча |
| прускі | — | Прушчына |
| Менск | — | Меншчына |
| валох | — | Валошчына |

**Злуч. „стн, стл, здн" і „рдн".**

**Правіла 10.** У злучэньнях „стн, стл, здн" і „рдн" сярэднія зычныя *д* і *т* ня пішуцца.



Прыклады:

| | | |
|---|---|---|
| пост | — | посны |
| чэсць | — | пачэсны |
| злосць | — | злосны |
| шчасце | — | шчасны |
| пасцяліць | — | паслаўся |
| міласэрдзе | — | міласэрны. |

**Злуч. „цч".**

**Правіла 11.** У злучэньні „цч" (з „цк") пішацца „чч".

Прыклады:

| | | |
|---|---|---|
| нямецкі | — | Нямеччына |
| турэцкі | — | Турэччына |
| полацкі | — | Полаччына |
| слуцкі | — | Случчына |
| казацкі | — | казаччына |

**Злуч. з прыстаўкамі і суфіксамі.**

**Злуч. „сч" і „зч" у прыстаўках.**

**Правіла 12.** Злучэньне „сч" і „зч" у прыстаўках „с (з), раз, без, цераз" пішацца праз „сч".

Прыклады:

| | | |
|---|---|---|
| з | — | счасаць, счышчаць |
| рас | — | расчасаць, расчухаць |
| без | — | бясчынства, бясчэсціць |
| цераз | — | церасчур. |

*Увага.* У некаторых словах, як „шчасце, рошчына", захоўваецца фонэтычнае напісаньне.

**У суфіксах.**

**Правіла 13.** У злучэньнях „сч" і „зч" пры спалучэньні асновы з суфіксамі азначаецца толькі асыміляцыя сьвісьцячых шыпячым, але асыміляцыя звонкага „ж" глухому не адзначаецца, і, такім чынам, пішацца на месцы „сч"—„шч", а на месцы „зч"—„жч".

Прыклады:

| | |
|---|---|
| сч=шч | перапішчык, разношчык, |
| зч=жч | прыкажчык, аб'ежчык, пакажчык, перавожчык. |

**Злуч. „хс, шс, жс, зс" і „сс".**

**Правіла 14.** Злучэньні „хс, шс, жс, зс" і „сс" у суфіксах „скі, ства" пішуцца праз „с".

П р ы к л а д ы:

валох — валоскі
птушыны — птуства
чэх — чэскі
тавaрыш — тaварыскі
прыгожы — прыгоства
Рыга — рыскі
Прага — праскі
Парыж — парыскі
француз — французкі
Каўказ — каўкаскі
кіргіз — кіргіскі
Русь — рускі

*Увага.* У дзеяслоўных формах з канчаткам „ся“ злучэньне „жс, шс“ пішацца этымолёгічна „шс — жс“.

П р ы к л а д ы:

мыеш — мыешся
круціш — круцішся
ня руш — ня рушся
парэж — не парэжся.

Злуч. „тс, кс, цс, чс“.

**Правіла 15.** Злучэньні „тс, кс, цс, чс“ у суфіксах з „скі, ства“ пішуцца праз „ц“.

П р ы к л а д ы:

скі — брат — брацкі
студэнт — студэнцкі
марксіст — марксіцкі
сваяк — сваяцкі
грэк — грэцкі
купец — купецкі
ткач — ткацкі
ства — брат — брацтва
вар‘ят — вар‘яцтва
сваяк — сваяцтва
купец — купецтва

Злуч. „дс“.

**Правіла 16.** Злучэньне „дс“ у суфіксах „скі, ства“ пішацца праз „дз“.

П р ы к л а д ы:

горад — гарадзкі
людзі — людзкі



след — следзтва
сусед — суседзтва.

Злуч. „дч, тч“.

**Правіла 17.** Злучэньні „дч“ і „тч“ ў суфіксах „чы, чык“ пішуцца этымолёгічна „дч, тч“ згодна з правілам 8.

след — следчы
загад — загадчык
пераплёт — пераплётчык
газэта — газэтчык.

Злуч. „цься“.

**Правіла 18.** Злучэньне „цься“ ў формах 3-яе асобы дзеясловаў і ў неазначальных формах пасьля галоснага пішацца праз „цца“, а пасьля зычнага праз „ца“.

П р ы к л а д ы:

мыцца — мыецца — мыюцца
часацца — чэшацца — чэшуцца
баяцца — баіцца — баяцца
ад‘есца — здасца.

Правапіс прыназоўнікаў.

**Правіла 19.** Прыназоўнікі з дзеясловамі і прыслоўямі пішуцца зьлітна.

П р ы к л а д ы:

дагнаць, напісаць, зрабіць, бясконца, здалёк, змалку, напавер, памалу, узімку, улетку, увосень, удзень, збоку, падобраму, панямецку, пабеларуску.

*Увага.* Пры злучэньні прыназоўнікаў (прыставак) з наступнымі словамі трэба адрозьніваць такія выпадкі:

1) Калі прыназоўнік-прыстаўка канчаецца на зычны гук, а наступнае слова пачынаецца гукам „і“, то заместа „і“ пішацца „ы“.

П р ы к л а д ы:

спадыспаду, зышло, падышоў.

2) Калі прыназоўнік-прыстаўка канчаецца на галосны гук, то „і“ таго слова, з якім прыстаўка зьліваецца, абарачаецца ў „й“.

Прыклады:

зайсці, прыйсці, прыйменнік, займеннік, выйсці, пайшоў, знайшоў, перайшоў.

3) У іншых выпадках прыстаўка проста далучаецца да таго слова, з якім зьліваецца ў адно слова.

Прыклады:

паддаць, замкнуць, выбіць, адзімаваць, аджаць.

Прыназ. „у“.

**Правіла 20**. Прыназоўнік „у“ перад словамі, што пачынаюцца з ненаціскнога галоснага „а“, калі перад ім няма прыстаўнога гуку „в“, не зьмяняецца, як і перад словамі, што пачынаюцца з зычнага або „у“.

Прыклады:

у агні, у ахвоту, у аднае, у адрыне, у аўторак, у Аўдоцці;

у усіх, у удавы, у учынку, у Уладыслава, у Унівэрсытэце; у вачох, у возеры.

**Правіла 21.** Прыназоўнікі з скланяльнымі словамі пішуцца асобна.

Прыклады:

пад столлю, над хатай, цераз плот, на камень, з запалам, без яды, па дарозе.

**Правіла 22**. Адмоўны дапаможнік „не“ з наступнымі за ім словамі пішацца зьлітна і асобна.

А. Зьлітна „не(ня)“ пішацца ў такіх разох:

1) Калі слова бяз „не“ ня ўжываецца: *нябожчык, небарака, немач, недасол, нягода.*

2) Калі адмоўе дадаецца да слова не для адмоўя, а для ўтварэньня новага слова (паняцьця).

Прыклады:

няшчасце, непрыяцель, няпраўда, нягодны, невялікі, неразумны, нявесела, неспадзявана, некаторы, нейкі, нечага, нехта, нешта, неякісь і некалісь, неўзабаве, неахвота.

Б. „Не (ня)“ пішацца асобна:

1) Ад дзеясловаў—*не перачытаць, ня вернешся, не прайсці,* за выключэньнем слоў, каторыя бяз „не“ ня ўжываюцца: *недамагаць, ненавідзець, няволіць, няможацца.*

2) Калі адмоўе дадаецца да слова ў значэньні адмаўленьня яго значэньня. Напр.: *Не векавое, а ракавое. Гэта былі не разумныя, а хітрыя людзі. Ня дзіва, што малако сіва. Багацце ня шчасце* (ня ёсьць шчасьце, а нешта іншае).

**Правіла 23**. Складаныя злучнікі пішуцца зьлітна.

Прыклады:

абы, ажно, або, ато, аднож, нібыта, нібы, альбо, каб, быццам, нашто, зашто, затым, затое, штоб, прынамсі.

**Правіла 24**. Складаныя злучнікі: *нашто, зашто, затым, затое, штоб* трэба адрозьніваць ад займеньнікаў з прыназоўнікамі або дапаможнікамі, бо займеньнікі пішуцца асобна ад другіх слоў; напр.: „*нашто* дарма траціцца“ — „*на што* паставіць лямпу“. „*Затым* мяне ня было, што я быў на сходзе“.—„*За тым* домам быў вялікі сад“. „Кося, кося, *штоб* толькі злавіць удалося“—„Што-б ты даў за гэта?“ У першых сказах словы: *нашто, затым, штоб*—злучнікі; а ў другіх сказах словы: *на што, за тым, што-б*—займеньнікі, і дзеля таго напісаны асобна ад прыназоўнікаў „на“, „за“ і дапаможніка „б“(бы).

## III. ПРАВАПІС МОРФОЛЁГІЧНЫХ ФОРМ.

Ненац. „е“.

**Правіла 25**. Ненаціскное „е (ё)“ ў морфолёгічных формах запісваецца літараю то „е“, то „я“.

а) „е“ пішам у наступных формах.

Прыклады:

Імен. склан. наз.-він. скл. адз. л. ніяк. р.

поле
смецце
насенне

| | | | |
|---|---|---|---|
| Клічны склон мужч. р. | браце, але чалавеча<br>хлопча, суседзе<br>дубе | | |
| Творн. скл. адз. ліку мужч. і ніяк. роду. | полем<br>смеццем<br>цесцем | | |
| Наз. скл. мн. ліку мужч. роду з суф. „ін“ і „ове“. | мешчанін<br>селянін<br>брат<br>муж | —<br>—<br>—<br>— | мяшчане<br>сяляне<br>братове<br>мужове |
| Займен. скл. Наз-він. скл. адз. л. ніякага роду | старое<br>чырвонае | | |
| Родн. скл. жан. р. | старое (бабы)<br>чырвонае (хусткі). | | |
| Спраж. 2-я і 3-я асобы адзін. л. і 1-я ас. мн. л. I спр. і 2-я ас. мн. ліку I і II спраж. | нясеш<br>нясе<br>нясём<br>несяце<br>сядзіце | —<br>—<br>—<br>—<br>— | чытаеш<br>чытае<br>чытаем<br>думаеце<br>паліце |
| 2-я асоба мн. ліку заг. ладу | нясéце | — | прасéце |

б) „я“ пішам у наступных формах:

П р ы к л а д ы:

| | |
|---|---|
| Імен. скл. Творн. скл. адз. ліку жан. р. | доляю<br>воляю |
| Родн. скл. мн. ліку ўсіх скл. | локцяў<br>прыяцеляў<br>здарэнняў<br>лісцяў<br>земляў<br>вішняў<br>коняй<br>гоняй |



| | |
|---|---|
| Дав. скл. мн. ліку мужч. і ніяк. р. і жан. скл. на зычны | локцям<br>прыяцелям<br>здарэнням<br>лісцям<br>гразям<br>гоням |
| Месн. скл. мн. л. | локцях<br>прыяцелях<br>здарэннях<br>лісцях<br>гразях<br>конях |
| Займ. скл. Наз.-він. скл. адз. л. ніякага роду | сіняе<br>ранняе |
| Родны скл. усіх радоў | сіняга<br>ранняга |
| Дав. скл. | сіняму<br>ранняму |
| Творн. скл. | сіняю<br>ранняю |
| Месн. скл. ж. р. | сіняй<br>ранняй |
| Наз. скл. мн. ліку | добрыя<br>чырвоныя<br>сінія<br>раннія. |

*Увага.* Да гэтага правіла не належаць тыя выпадкі, калі „я (а)“ ў складох пасьля націску стаіць на месцы этымолёгічнага „я (а)“.

П р ы к л а д ы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Склан. Наз. скл. адз. л. жан. роду | доля<br>воля | —<br>— | зямлѝ<br>куццѝ |

| | | |
|---|---|---|
| Наз. скл. ніяк. роду | це́мя — | цяля̀ |
| Родн. скл. адз. л. муж.-ніяк. роду | ву̀чня — | лася̀ |
| | це́сця — | каня́ |
| | зѐлля — | жыцця̀ |
| | поля — | галля̀ |
| Дав. скл. мн. л. жан. скл. | долям — | нага̀м |
| | зѐмлям — | рука̀м |
| Творн. скл. мн. л. усіх радоў | зѐмлямі — | свіння̀мі |
| | ву̀чнямі — | каня̀мі |
| | зѐллямі — | паля̀мі |
| Месн. скл. мн. л. жан. скл. | зе́млях — | нага̀х |
| | долях — | рука̀х |
| Спраж. 3-я асоба мн. ліку 2 спраж. | ходзяць — | глядзя̀ць |
| | носяць — | сядзя̀ць |
| Дзея-прыслоўе | гле́дзячы — | бо глядзяць |
| | се́дзячы — | „ сядзяць |
| Канч. займ. „ся“ | гонішся<br>носішся<br>мыюся. | |

**Правіла 26.** Іменьнікі ў месным склоне адзін. ліку маюць на пісьме канчаткі: 1) „е“—„э“, 2) „і“—„ы“ і 3) „у“ — „ю“.

1) „е“ на канцы маюць іменьнікі ўсіх трох радоў з асновамі на цьвёрды зычны.

Прыклады:

стол—*на сталѐ*, вол—*на валѐ*, дуб—на ду́бе, луг—у лу́зе,
галава — *на галавѐ*, сасна — *на саснѐ*, яма—у я̀ме, дарога — на даро̀зе,
вакно — *на вакнѐ*, ярмо—*у ярмѐ*,
харраство—*у хараствѐ*, слова—аб сло̀ве.

„э“ маюць: а) іменьнікі жаноч. р. з асновамі на „к“, калі націск прыходзіцца на канчатак.

Прыклады:

на руцэ̀, у руцэ̀, у рацэ̀;



б) у мужч. родзе канчатак „э“ мае слова „двор“: у дварэ̀, на дварэ̀.

2) „і“ маюць іменьнікі ўсіх радоў з асновамі на мяккі зычны, напр.: *на кані, на агні, на лѐкці, на зямлі, у ку̀зні, у ла́зні, на по̀лі, на галлі, у жыцці;*

На „ы“ канчаюцца:

а) іменьнікі ўсіх радоў з асноваю на зацьвярдзелы зычны (ж, ш, ч, ц, р): *на нажы̀, на абручы̀, у шалашы̀, на канцы̀, на бары̀, на тапары̀, у дзяжы̀, на пѐчы, на душы̀, на ву̀ліцы, на гары̀; на плячы̀, на во̀гнішчы, на со́нцы, у дабры̀, на мо̀ры;*

*Увага.* Іменьнікі мужч. і ніяк р. з асноваю ня зацьвярдзелыя зычныя дапускаюць канчатак і „у“: *на нажу̀, на канцу̀, пры Лукашу̀, аб нѐмцу, на во̀гнішчу, на мо̀ру.*

б) канчатак „ы“ маюць усе іменьнікі жаноч. р. з асноваю на „к“, калі націск ня прыходзіцца на канчатак, прычым „к“ падмяняецца „ц“, напр.: матка—*пры ма̀тцы*, рэчка—*у рэ̀чцы*, шапка—*у ша̀пцы*, казка—*у ка̀зцы*, граматыка—*у грама̀тыцы*, навука—*у наву̀цы.*

*Увага.* Іменьнікі жан. р. адз. л. ў давальным маюць тыя-ж канчаткі, што і ў месным склоне.

3) На „ю“ і на „і“ канчаюцца іменьнікі мужч. роду з асновамі на „й“ і мяккі зычны, напр.: гай—*у гаю,—у гаі*, Дунай—*на Дуна̀ю,—у Дуна̀і*, край—*на кра̀ю—у кра̀і*, салавей—*пры салаў̀ю—пры салаўі*, верабей—*пры вераб‘ю*—пры *вераб‘і*, злодзей—*на зло̀дзею—на зло̀дзеі*, конь—*на каню—на кані*, лось—*аб ласю—аб ласі.*

На „у“ канчаюцца іменьнікі мужч. і ніяк. р. з асновамі на „к“: *на суку̀, у Мѐнску, у Слу̀цку, пры чалавѐку, аб во̀ўку, на во̀ку, на вѐку, у малаку̀.*

*Увага.* Калі іменьнікі мужч. і ніяк. роду маюць аснову на „г“ ці „х“, то месны склон можа мець таксама канчатак „у“, як і з асноваю на „к“: *у стра̀ху, на паро̀гу, у ву̀ху;* але калі „г“—„х“ зьмяняюцца на „з“ — „с“, то тады канчатак будзе „е“: *у стра̀се, на паро̀зе, у ву̀се, у кажусѐ.*

## IV. ПААСОБНЫЯ ЗАЎВАГІ АБ СЛОЎНЫХ ФОРМАХ.

Іменнае склан. Назоўн. скл. мн. ліку.

**Правіла 27.** Іменьнікі множнага ліку ў назоўным склоне маюць канчатак у цьвёрдых і зацьвярдзелых асновах „ы“, у мяккіх і пасьля „г, к, х“—„і“.

Іменьні мужчынскага роду з суфіксам „анін“, (янін) маюць канчатак „е“.

П р ы к л а д ы:

ы — і

| | | |
|---|---|---|
| бот | — | бо́ты |
| цы̀ган | — | цыганы̀ |
| ха̀та | — | ха́ты |
| мо́ра | — | мо́ры |
| рог | — | ро̀гі |
| ла̀ўка | — | ла̀ўкі |
| саха̀ | — | со̀хі |

е

| | | |
|---|---|---|
| жо̀нка | — | жо́нкі і жанкі̀. |
| селяні́н | — | сяля̀не |
| грамадзяні́н | — | грамадзя̀не. |

Родн. скл. адз. ліку мужч. р.

**Правіла 28.** У формах роднага склону адз. ліку іменьнікаў мужч. роду ўжываюцца два канчаткі: „а (я)“ або „у (ю)“ ў залежнасьці ад іх значэньня.

„А“ (я) пішам у іменьніках, калі яны азначаюць:

а) прадметы жывыя;

б) прадметы няжывыя, але непадзельныя, г. зн. такія, часьць якіх ня можа назвацца імем цэлага прадмету;

в) назвы часьцей цела, месяцаў, мер, грошай.

П р ы к л а д ы:

сына, каня, казла, вужа, салаўя;
стала, пня, сярпа, бота, плуга;
пальца, кіпця, языка; лістапада,
снежня, студня, чэрвеня; мэтра,
літра, хунта, рубля, франка.

„У“ (ю) пішам у іменьніках, калі яны азначаюць:



а) назвы матар'ялаў і наогул няжывых прадметаў, часьць якіх можа назвацца імем цэлага прадмета;

б) разумовыя паняцьці;

в) прадметы зборныя;

г) іменьнікі чужаземнага пахаджэньня.

П р ы к л а д ы:

гароху, бобу, дзёгцю, шоўку;
розуму, жалю, болю, страху;
люду, натоўпу, народу, проценту;
дакумэнту, тому, пляцу, інстытуту.

*Увага 1.* Некаторыя іменьнікі маюць падвойныя канчаткі.

П р ы к л а д ы:

з маста і з мосту, аўса і аўсу, дома і дому; ні аднаго каменя, у полі многа каменю.

*Увага 2.* Іменьнікі, калі яны азначаюць геоографічныя назвы, у адных выпадках дапускаюць канчатак „у“ (ю), у другіх „а“ (я), а ў трэйціх тыя і другія.

П р ы к л а д ы:

з Менску, з Слуцку, з Полацку, з Дону;
з Барысава, з Рагачэва, з Кіева, з Міра;
з Парыжу і з Парыжа, з Бэрліну і з Бэрліна,
з Гомлю і з Гомля.

Родны скл. множ. ліку

**Правіла 29.** Формы роднага склону множнага ліку іменьнікаў усіх радоў маюць канчаткі „оў“ (ёў) (не пад націскам „аў“ (яў). У іменьніках жаночага і ніякага роду і ў некаторых словах мужч. роду могуць быць і формы аднае асновы.

У іменьніках жаночага роду з канчаткам на зычны гэтыя канчаткі могуць быць толькі не пад націскам. У націскных-жа канчатак будзе „эй-ей“.

**П р ы к л а д ы:**

м. р.

| | | |
|---|---|---|
| вало̀ў | — | бо̀таў |
| ласёў | — | цѐсцяў |
| стало̀ў | — | тво́раў |

| | | | |
|---|---|---|---|
| н. р. | рагòў | і | рог |
| ж. р. | гадòў | і | год |
| м. р. | вóкнаў | і | вакóн |
| | хáтаў | і | хат |
| | сòхаў | і | сох |
| ж. р. з канчаткам на зычны. | гасцéй | — | грòшай |
| | чарцéй | — | кòняй |
| | людзéй | — | гòняй |
| | начэ̀й | але: | рэ̀чаў |
| | касцѐй | — | мàзяў |

*Творны склон імен. жан. роду.*

**Правіла 30.** Творны склон іменьнікаў жаночага роду з асноваю на галосны мае канчаткі „ою(ёю)“ або „ой(ёй)“ пад націскам і „аю(яю)“ або „ай(яй)“ не пад націскам. У іменьніках з асноваю на зычны формы творнага склону маюць канчатак „у(ю)“.

Прыклады:

сахòю або сахòй, хàтаю або хàтай
зямлѐю або зямлѐй, дòляю або дóляй

але:

нóччу
мàззю
сòллю
кpòўю
кòсцю.

*Дав. і месн. скл. мн. ліку.*

**Правіла 31.** Формы дав. і месн. склонаў множн. ліку па канчатках адрозьніваюцца ў іменьніках мужч.—ніяк. роду ад іменьнікаў жан. р. з канчаткам на „а“ і на зычны. Для мужч. і ніяк. роду ўжываюцца канчаткі: пад націскам—дав. скл. „ом“(ём) і месн. скл. „ох“ (ёх), не пад націскам „ам“(ям) і „ах“ (ях). Для іменьнікаў жан. роду на „а“ і на зычны ўжываюцца канчаткі „ах“(ях) як пад націскам, так і не пад націскам.

Прыклады:

| | | | |
|---|---|---|---|
| м. і н. род. | сталóм | — | мòрам |
| | сталòх | — | мòрах |
| | ласём | — | цѐсцям |
| | ласёх | — | цéсцях |



але:

| | | | |
|---|---|---|---|
| | рукàм | — | хàтам |
| | рукáх | — | хàтах |
| | нагàм | — | сòхам |
| | нагàх | — | сòхах |
| ж. р. на зычны | касцям | — | мàзям |
| | касцях | — | мáзях |

*Займен. склан. Месн. скл. адз. ліку мужч. і ніяк. роду.*

**Правіла 32.** У займенным скланеньні формы месн. склону мужч. і ніяк. роду маюць канчаткі „ым-ім“ (аднолькавыя з творным).

Прыклады:

стары̀м — сінім
чым — кім
самы́м — ім

*Родны скл. адз. ліку жан. роду.*

**Правіла 33.** Родны склон адзіночнага ліку жан. роду мае канчаткі пад націскам „ое“, „ой“, „ей“, а не пад націскам „ае“ (яе), „ай“ (яй).

Прыклады:

старóе — чырвòнае
тваѐ — сіняе
або
старóй — чырвонай
тваёй — сіняй

*Спражэньне. 1-я асоба мн. л. абвесн. ладу.*

**Правіла 34.** У формах 1-ае асобы множнага ліку дзеясловаў 1-га спражэньня канчаткі пад націскам пішуцца праз „ём“ (ом), а бяз націску „ем“ (ам).

Прыклады:

нясём — бýдзем
ідзём — пòйдзем

*2-я асоба мн. ліку.*

**Правіла 35.** У формах другое асобы множнага ліку маем формы для 1-га спражэньня „аце, яце“, а для 2-га спражэньня „ыце, іце“.

Прыклады:

1 спр. несяцѐ, кáжаце — 2 спр. гавóрыце, пàліце

| | |
|---|---|
| ведзяце́ | седзіце́ |
| гуля̀еце | крычыце́ |

**3-я асоба адз. і мн. ліку.**

**Правіла 36.** Формы 3 ас. адзін. ліку канчаюцца ў першым спражэньні на „е, э, а“, а ў другім спражэньні на „іць“, „ыць“; формы трэйцяе асобы множнага ліку маюць канчаткі для другога спражэньня „аць (яць)“.

Прыклады:

**1 спраж.**

| 1 спраж. | 2 спр. |
|---|---|
| нясѐ | кѐсіць |
| бярэ̀ | гавѐрыць |
| піша | сядзя̀ць |
| нясу̀ць | говѐраць |
| вядѐць | па́ляць |
| гуля̀юць | |

**Загадн. лад**

**Правіла 37.** У формах загаднага ладу маем канчаткі 1 асобы мн. ліку на „ма“ або „ем, эм“ і 2 асобы мн. ліку „це“ або „еце“, „эце“.

Прыклады:

| 1 ас. | | 2 ас. |
|---|---|---|
| кіньма | — | кіньце |
| гуля̀йма | — | гуля̀йце |
| ідзѐм | — | ідзѐце |
| нясе́м | — | нясе́це |
| бярэ̀м | — | бярэ̀це |

**Аб форме ліч. „два“.**

**Правіла 38.** У лічэбніку „два“ ў ускосных склонах усіх радоў маем формы з „о (ё)“ або „у“ (ю) перад канчаткам.

Прыклады:

| | | |
|---|---|---|
| р. | двох, двух | дзвёх, дзвюх |
| д.-м. | двом, двум | дзвём, дзвюм |
| тв. | дво́ма, двума̀ | дзвёма, дзвюма̀. |

*Увага.* Тыя-ж формы ўжываем і ў складаных словах з „два“.

Прыклады:

двохсо̀т, двухсот двомста́м, двумстам.



## V. ПРАВАПІС ЧУЖАЗЕМНЫХ СЛОЎ.

*Галосныя.*

**„о“ (ё) не пад націскам.**

**Правіла 39.** У словах чужаземнага пахаджэньня „о(ё)“ пішацца толькі пад націскам; ненаціскное „о(ё)“ заўсёды пішацца праз „а(я)“.

Прыклады:

рэвалю̀цыя, каапэра̀цыя, палітыка, экано́мія, арыента̀цыя, праклямáцыя, маналёг, сацыялягі́чны, нацыяна̀льны.

**„о“ на канцы слоў.**

**Правіла 40.** На канцы чужаземных слоў ненаціскное „о(ё)“ захоўваецца.

Прыклады:

| | |
|---|---|
| ра̀дыё | бру̀то |
| тры̀ё | кака̀о |
| со̀лё | фра̀нко |
| нэто | інко̀гніто. |

*Увага.* У спэцыяльнай навуковай літаратуры ў чужаземных малапашыраных словах дапушчаецца напісаньне ненаціскнога „о“ ў пачатку і ў сярэдзіне слова.

**Чужаз. „е“.**

**Правіла 41.** Чужаземнае „е“ перадаецца на пісьме літарай „э“. Толькі пасьля „л“, „г“ (што на месцы „g“), „к“ і „х“ пішацца „е“.

Прыклады:

этымалёгія, эпапэя, эрмітаж, дэбаркадэр, тэатар, пэдагог, мэтодыка, экспэрымэнт, гэрой, гэрб; тэлеграма, тэлефон, элегія, альгебра, геамэтрыя, цынгель, гестка, анкета, банкет, хемія, парыкмахер.

**„э (е)“ не пад націскам.**

**Правіла 42.** Ненаціскное „э(е)“ ў чужаземных словах на пісьме захоўваецца.

Прыклады:

рэвалю̀цыя, дэлега̀т, экано̀мія, каапэра̀цыя, тэлегра̀ма, элѐгія, элемэнта̀рны.

*Увага.* У некаторых даўно запазычаных і агульна вядомых словах на месцы ненаціскнога „э“ пішацца „а“. Правапіс гэтых слоў вызначаецца ортогр. слоўнікам.

Прыклады:

дакляраваць, сакратар.

Чужаз. „je“.

**Правіла 43.** Чужаземнае „je“ передаецца праз „е“.

**Прыклады:**

праект, рэестар, рэл‘еф, бар‘ер, траекторыя.

Чуж. „і“. пасьля ж, ч, ш, ц, р.

**Правіла 44.** Чужаземнае „і“ передаецца пасьля зацьвярдзелых „ж, дж, ч, ш, ц, р“ заўсёды праз „ы“.

Прыклады:

рэжым, масажыстка, імажынізм, жырафа, рэчытатыў, чычэронэ, шыфр, шыфраваны, шыфон, нацыя, канстытуцыя, ізаляцыя, міліцыя, аварыя, гісторыя.

Чуж. „і“ пасьля д, т, з, с.

**Правіла 45.** Пасьля зубных „д, т, з, с“ чужаземнае „і“ передаецца праз літ. „ы“.

Прыклады:

дырэктар, дысцыпліна, гвардыя, дылема, кандыцыя, індывідуальны, тып, тыран, актыў, калектыў, актыўны, амністыя, партыя, пазыцыя, магазын, фізыка, сынонім, сыстэма, унівэрсытэт, сынтакс.

*Увага 1.* Але ў канчатках слоў на „ія, ійны, ізм, істы“ і пасьля „з“ і „с“ пішацца „і“.

Прыклады:

зія — фантазія, рэцэнзія, аказія, дывізія, дывізійны

зісты — гімназісты, гімназістка

сія — сэсія, камісія, місія, місіянер

сісты — марксісты

сізм — марксізм, параксізм

*Увага 2.* У канчатках слоў на „ір“, а таксама перад суфікс. памяншальнага значэньня „ік“ пасля „з, с, д (дз), т (ц)“ захоўваецца „і“, і заместа „д, т“ пішацца „дз, ц“.



Прыклады:

брыгадзір, камандзір, мундзір, дэзэрцір, касір, блізір, візір, кірасір.

| | | |
|---|---|---|
| білет | — | білецік |
| экспэрымэнт | — | экспэрымэнцік |
| працэс | — | працэсік |
| эпізод | — | эпізодзік |

Злуч. „іа, іе, іо, іу“.

**Правіла 46.** Чужаземныя злучэньні „іа, іе, іо, іу“ передаюцца праз „ія, іе, іё (не пад нац. „ія“), „ію“, а пасьля зацьвярдзелых (р, ж, ч, ш, ц) і „д, т“ праз „ыя, ые, ыё (не пад націскам „ыя“) і „ыю“.

Прыклады:

ія - ыя: гэніяльны, спэцыяльны, варыянт, сацыялізм, дыялект, партыя

іе - ые: гігіена, піетызм, кліент; аўдыенцыя

іё - ыё: аксыёма, эмбрыён, бібліёграф, афіцыёзны, ідыёт

не пад націск.

ія - ыя: біяскоп, геліятроп, сацыялёгія, бібліятэка

ію - ыю: кансыліюм, трыюмвірат, трыюмф, радыюс, акварыюм, калёквіюм.

*Увага.* Пасьля іншых галосных (не „і, ы“) чужаз. „а, у, е, о,“ заўсёды пішуцца праз „а, о, у, э“.

Прыклады:

дуэль, паэт, актуальны, індывідуальны, кааліцыя, рэакцыя, ідэальны, какао, індывідуум, пэрыяд.

Чуж. „u“ франц. і „ü“ нямецк.

**Правіла 47.** Чужаземныя франц. „u“ і нямецк. „ü“ передаюцца праз „ю“, а пасьля зацьвярдзелых (ж, ч, ш, р, ц) і „д, т“ праз „у“.

Прыклады:

ю — бюро, бюджэт, бюст, бюракрат, купюра, вэстыбюль, нюанс, мэню, сюжэт.

у — нактурн, журы, увэртура, брашура, душэс.

„у“ на пачатку слоў.

**Правіла 48.** Чужаземнае „у“ на пачатку слоў пішацца згодна з правілам 4.

Прыклады:

адчынілі унівэрсытэт, гэта утопія.

*б) Зычныя.*

Чуж. „L“.

**Правіла 49.** Чужаземнае „л“ перадаецца ў пачатку і ў сярэдзіне слоў мякка.

Прыклады:

лябараторыя, ляндшафт, лёгіка, лёзунг, галюцынацыя, фальклёр, блюза, баляда, балён, парлямэнт, філялёгія, праклямацыя, бульвар, капітуляваць, спэкуляваць, рэгуляваць, цэлюлёза.

Чуж. „L“ у канчатках.

**Правіла 50.** У канцы чужаземных слоў „л“ перадаецца або мякка або цьвёрда ў залежнасьці ад вымаўленьня.

Прыклады:

мужч. род ль — аўтамабіль, бінокль, вэксаль, дэталь, стыль, цыркуль

л — адмірал, артыкул, ідэал, інтэрнацыянал, капітал, арыгінал

жан. род ля — заля, віялянчэля, карусэля, сэрадэля, роля,

ла — фабула, формула, фістула

множ. лік. — канікулы.

Гук „ф“ у чуж. словах.

**Правіла 51.** Гук „ϑ“ у чужаземных словах перадаецца праз літару „ф“, а „th“ праз „т“.

Прыклады:

ф — факт, фабрыка, фамілія, форма, фронт, фартуна, фэст, фігура, філязофія, тэлеграф, гектограф, рэл‘еф, тарыф

т — тэатар, артаграфія, лягарытм.

Падвойн. зычныя ў чужаз. словах.

**Правіла 52.** Падвойныя зычныя ў чужаземных словах ня пішуцца.

Прыклады:

акумуляцыя, апарат, асыміляцыя, бруто, баляст, бэлетрыстыка, група, ідылія, мадона, камуна, нэто, тэрыторыя.

*Увага.* У некаторых словах падвойныя захоўваюцца.



Прыклады:

манна, ванна.

*в) дыфтонгі і злучэньні галосных.*

Чуж. дыфт. „au, ou“

**Правіла 53.** Дыфтонгі „au, ou“ заўсёды перадаюцца праз „аў, оў“.

Прыклады:

аў, оў — аўдыторыя, аўдыенцыя, гаўптвахта, браўнінг.

Чуж. злуч. „eu“

**Правіла 54.** Чужаземнае злучэньне „eu“ перадаецца праз „эў — еў“.

Прыклады:

эў — еў — нэўрастэнія, нэўралёгія, нэўтральны, нэўтралітэт.

Чуж. злуч. „ei“

**Правіла 55.** Чуж. злуч. „ei“ перадаецца праз „эй — ей“.

Прыклады:

эй — ей — рэйнвэйн, партвэйн, лейт-матыў.

*г) суфіксы.*

Суфікс „ер, эр“.

**Правіла 56.** У суфіксах „ер“ рознага паходжаньня (франц. eur, aire) пішацца або „эр“, а пасьля „дз (=д), ц (=т), н, л, г (што з „g“), „к, х“ — „ер“ або „ёр“ (пад націскам).

Прыклады:

эр — рэжысэ̀р, шо́фэр

ер — акцыянѐр, місіянѐр, міліцыянѐр, ква̀кер, інжынѐр;

ёр — кантралёр, гувэрнёр, марадзёр, манцёр, шахцёр, рэзанёр, парлямэнцёр.

Толькі пад націскам

Канчатак „тр, др“,

**Правіла 57.** У канцы чужаземных слоў злучэньні „тр, др“ перадаюцца праз „тар, дар“.

Прыклады:

тр — магістар, сэмэстар, літар, мэтар
др — тэатар, цыліндар

*Увага.* У рэдкіх выпадках можа пісацца і „тр, др“.

Прыклады:

арэомэтр, дыямэтр, кадр.

*д) Апостраф.*

**Апостраф перадётаванымі галоснымі.** **Правіла 58.** У чужаземных словах перад ётаванымі галоснымі пішацца апостраф (').

Прыклады:

павіл‘ён, мэдал‘ён, рэл‘еф, кан‘як, кан‘югацыя, пэн‘юар, кан‘юнктура, кампан‘ён; ад‘ютант, аб‘ект, кур‘ер мар‘яж.

**Правіла 59.** У чужаземных дзеясловах і вытворных ад іх устаўка „ір“ ня ўжываецца.

Прыклады:

рэгуляваць — рэгуляванне, вібраваць — вібраванне (вібрацыя), сымуляваць — сымуляванне (сымуляцыя), калькуляваць—калькуляванне (калькуляцыя), спэкуляваць — спэкуляванне (спэкуляцыя).

*Увага.* У некаторых словах суф. „ір“ (ыр) захоўваецца: камандыраваць, камандыроўка, манкіраваць, манкіроўка.

## VI. ПРАВАПІС УЛАСНЫХ ІМЁН, ПРОЗЬВІШЧАЎ І ГЕОГРАФІЧНЫХ НАЗВАЎ.

**Правіла 59.** Беларускія ўласныя імёны, прозьвішчы і географічныя назвы запісваюцца беларускім правапісам з захаваньнем мясцовых асаблівасьцяў, якія не супярэчаць літаратурнаму вымаўленьню.



Прыклады:

Стралкоўскі (а не Стрэлкоўскі), Трыгубаў (а не Трэгубаў), Рабцэвіч (а не Рябцэвіч), Пятухоўскі (а не Піотухоўскі), Ваяводзкі (а не Ваявудзкі), Грыбоўскі (а не Гржыбоўскі). Ганчарэнка, Арцямюк, Федаровіч;

Менск, Полацак, Слуцак, Віцебск, Бярэсьце, Горадня, Вільня, Ворша, Магілеў, Рагачэў, Шаркаўшчына (а не Шаркаўшчызна), Мазыр, Бяларуч, Бяроза, Раса (а не Арэса), Пціч.

*Увага 1.* Жаночыя прозьвішчы пішуцца па мужу, за выключэньнем катэгорый прозьвішчаў-прыметнікаў, якія пішуцца ў жаночым родзе.

Прыклады:

Рабцэвіч, Арцямюк, Ганчарэнка

але:

Кернажыцкая, Азбукіна, Іваніцына, Вераб‘ёва.

*Увага 2.* Таксама па бацьку пішуцца прозьвішчы сыноў і дачок. Такім чынам, хоць у звычайным абыходку і ўжываюцца прозьвішчы дачок з суфіксам — *„анка“* і сыноў з суфіксамі — *„ёнак-онак-шчык“*, аднак, у офіцыяльнай мове такое напісаньне ня ўжываецца.

Прыклады:

Грыпіна Цішкевіч (а не Цішкевічанка), Алена Куніцкая (а не Куніччанка), Ігнат Кулеўскі (а ня Кулеўшчык).

*Увага 3.* У дакумэнтах і ў офіцыяльным абыходку, заместа памяншальных імён людзей, як Ясь, Ігнась, Юзік, Алесь, Сцёпка, Кася, Гануля, ужываюцца незьмяншальныя беларускія мясцовыя формы, напр.: Ян, Іван, Базыль і Васіль, Юрай, Тодар, Антон, Ігнат, Сцяпан, Аляксандар, Апанас, Міхаіл, Міхал і Міхайла, Мікола, Мікодым; Ганна, Кацярына, Вольга, Надзея, Наталля, Юстына, Праксэда, Прузына, Юзэфа, Агата, Паўліна, Антаніна, Сынклета, Мар‘я.

*Увага 4.* Мужчынскія войчаствы ўжываюцца з суфіксам — *іч*, а жаночыя з суфіксам — *оўна, еўна.*

Прыклады:

муж. Тамаш Тодаравіч, Сымон Юравіч, Усевалад Янавіч, Ян Базылевіч, Мацей Міхалавіч.

жан. Юстына Адамаўна, Надзея Васілеўна, Прузына Юстынаўна, Ева Змітраўна і г. д.

**Правіла 61.** Іншаславянскія імёны, прозьвішчы і географічныя назвы запісваюцца беларускім правапісам з перадачаю беларускага аканьня, зацьвярдзелых зычных, дзеканьня і цеканьня, „ў“ нескладовага зам. „в“ перад зычнымі і ў канцы слоў і беларускіх канчаткаў.

Такім чынам пішам Катлярэўскі (а не Котляревський), Сакалоў (а не Соколов), Рабцоў (а не Рябцов), Чалкашоў (а не Челкашов), Шышкоў (а не Шишков), Шаўчэнка (а не Шевченко), Ціханаў (а не Тіхонов), Дзеркачоў (а не Деркачев), Міклошыч, Кара-Джорджэвіч, Караджыч, Цонеў, Позднышаў, Кастрама, Рыбінск, Разань, Чалябінск, Жытомір, Днепра-Пятроўск, Цвер, Уладзікаўказ, Бжазіны, Пабіяніцы, Воля Сухадольская і г. д.

*Увага.* Іншая фонэтызацыя іншаславянскіх уласных іменьняў і прозьвішчаў не дапускаецца.

Прыклады:

Талстой (а не Таўсты), Удалой (а не Удалы), Халтурын (а не Хаўтурын), Волкаў (а не Воўкаў), Позднышаў (а не Познышаў), Постнікаў (а не Поснікаў), Счастліўцаў (а не Шчасліўцаў), Берднікаў (а не Бернікаў), Нікітскі (а не Міцкі), Рузскі (а ня Рузкі).

**Правіла 62.** Чужаземныя (неславянскія) імёны, прозьвішчы і географічныя назвы запісваюцца паводле агульнага напісаньня чужаземных слоў, прынятага ў беларускім правапісе (гл. аддз. V).

Прыклады:

Правіла 39 — Афэлія, Аржанікідзэ, Афэнбах.

Правіла 40 — Карузо, Эміліё, Антарыё, Лякарно, Лянгфэлё.

Правіла 41, 42 — Вэрсаль, Сэнэгаль, Філядэльфія, Гергард, Гетынген, Капэнгаген, Палермо, Каледонія, Гегель, Тэгеран.



Правіла 43 і 58 — Мал‘ер, Т‘ер, Жус‘е, Гарн‘е, Тард‘е.

Правіла 45 — Цымэрвальд, Рым, Рыга, Шыраз.

Правіла 46 — Азія, Аспазія, Пэрсія.

Правіла 47 — Анунцыё, Антарыё, Разарыё.

Правіла 48 — Мюзэта, Дубуа, Дурынг, Дуклё, Дусэльдорф, Турынгія.

Правіла 49 — рака Усуры, рэспубліка Урагвай.

Правіла 50 — Лёндан, Лякарно, Брусэль, Мішэль, Поль, Заля̀, Нікаля.

Правіла 52 — Тодар, Атэны, Тэадор.

Правіла 54 — Аўэрбах, Аўстэрліц, Шапэнгаўер, Нордаў, Фаўст, Бічэр-Стоў.

Правіла 55 — Фэўэрбах.

Правіла 56 — Лейпцыг, Лейбніц, Рэйн, Шлейхер, Эйхенвальд, Эйнштэйн.

*Увага.* На выпадак дакладнейшае перадачы неславянскіх і славянскіх імёнаў, прозьвішчаў і географічных назваў, пераважна мала вядомых і мала пашыраных, дапускаецца і аўтэнтычнае напісаньне.

## VII. ПРАВАПІС ЗНАКАЎ ПРЫПЫНКУ.

### *Пункт (.)*

**Правіла 63.** Пункт ставіцца ў канцы кожнага інтонацыйна закончанага сказу.

Прыклады:

Ціха. Глуха. Хоць-бы зык чалавечага голасу. І нейкая жуда абхапіла Андрэя (Т. Гушча).

Чырвань усюды з‘яла пабедна, урачыста. Чырвань гарэла крывавым агнём. І агнём разлівалася наўкола. Запальвала, уздымала, абурала. (М. Зарэцкі).

М. Зарэцкі. Сцежкі-дарожкі. Раман. (Вокладка кніжкі).

**Правіла 64.** Пункт ставіцца пры скарачэньні вядомага слова, прычым у сярэдзіне слова скарачэньне робіцца пасьля зычнага.

Прыклады:

5 руб. (рублёў); 1929 г. (год); і г. д. (і гэтак далей).

*Увага.* Пры азначэньні скарочанага імя і імя па бацьку (ініцыяламі) ўжываюцца першыя літары імёнаў, і пасьля іх ставіцца пункт.

Прыклады:

У. І. Ленін, А. Р. Чарвякоў, Я. Купала, М. Чарот.

*Клічнік (!).*

**Правіла 65.** Клічнік ставіцца пры клічнай інтонацыі або пасьля сказу, а таксама пасьля паасобных словазлучэньняў ці слоў.

Прыклады:

Звіні ў свой звон, сялянска-пралетарскі звон! (Я. Купала).

Вясна, вясна! Не для мяне ты! (Я. Колас).
Таварышы! Увага! Наш сход лічу адчыненым. (Ц. Гартны).

*Увага.* Павышаная проці звычайнай інтонацыя клічу адзначаецца двома (!!) або трыма (!!!) клічнікамі.

Прыклады:

К вам мы прыдзем, прыдзем жыва,
А цяпер мы: раз! — два!! — раз!!! (М. Чарот).
Пявун не прапяяў тры краты,
Вы адракліся...
Супастаты!!! (М. Чарот).

*Пытальнік (?).*

**Правіла 66.** Пытальнік ставіцца пры пытальнай інтонацыі або пасьля сказу, а таксама пасьля паасобных слоў ці словазлучэньняў.

Прыклады:

Што? Зноў непагода? (М. Чарот).
А як чорныя, хворыя фарбы ліжуць твар рабочых, вам не цікава? (А. Алекс.).

*Увага 1.* Падвышаная проці звычайнай пытальная інтонацыя абазначаецца двома (??) або трыма (???) пытальнікамі.



*Увага 2.* У выпадках складанае пытальна-клічнае інтонацыі ставяцца абодвы знакі — пытальнік і клічнік (?!) ці наадварот (!?).

Прыклады:

Мы цябе кулакамі, чуеш?! (М. Чарот).
Не праедзеш ты дубровы — пагані!? (М. Чарот).

*Двукроп'е (:)*

**Правіла 67.** Двукроп'е ставіцца:

а) перад чужымі словамі.

Прыклады:

Андрэй змяшаўся, пабляднеў і сказаў: „так гавораць" (Т. Гушча).

І пачаў Сымонка так: „хто пра гора тое скажа?" (Я. Колас).

б) перад пералічэньнем, калі ёсьць абагульняючае слова, або калі абагульняючага слова няма, але перад пералічэньнем адчуваецца інтонацыя незакончанасьці.

Прыклады:

А пад паветкаю прылады: вазок, калёсы, панарады,
Старыя сані, восі, колы і вулляў некалькі на пчолы.
(Я. Колас).

У часопісі прымаюць удзел: Я. Колас, Я. Купала, Ц. Гартны і іншыя.

*Працяжнік (—)*

**Правіла 68.** Працяжнік ставіцца:

а) Пры паясьненьні паміж сказамі.

Прыклады:

Беларуская песня ня згіне — ёй звініць новых дзён варстат. (А. Алекс.).

б) У тых выпадках, калі па характары інтонацыі адчуваецца пропуск.

Прыклады:

Яны — байцы вялікай раці (М. Чарот).
Калі, як жоўталісце,

Жылі мы — не жылі" (Я. Купала).
Рабочы я — дабра каваль (А. Гурло).

в) Пры пабочным слове ў сказе, калі пры ім будзе інтонацыя рэзкага выдзяленьня пабочнага слова.

Прыклады:

Чорнымі дужкамі — сымбаль працы — перацінали спіны гострыя сярпы (Ц. Гартны).

*Дужкі* [ ( ) ].

**Правіла 69**. У дужках ставяцца паасобныя словы, словазлучэньні або сказы, калі яны зьяўляюцца паясьненьнямі і адасабляюцца ў вымаўленьні ціхім і прысьпешаным голасам.

Прыклады:

Прыпісанне нам, што мы карыстаемся індывідуальным (асабістым) тэрорам — есць злосная хлусня (з прамовы Б. Тарашкевіча ў Польск. Сойме).

Ну, брат! — пачаў ён таемным голасам — цяпер Цімоха (прыкажчыка каапэратыву) падабуюць!? (С. Хурсік).

І толькі пачне Міхалка даводзіць знаёмасць з ім, кінуўшы яму перад гэтым кусочак хлеба (а хлеба ня ўкраўшы ня возмеш), як ужо братавая барабаніць у шыбу (Т. Гушча).

*Шматкроп'е* (...).

**Правіла 70**. Шматкроп'е ставіцца для азначэньня перарванай або няскончанай мовы.

Прыклады:

Гэта праўда... Жыццё само паказвае. Кіруе... Людзі, што дробныя часткі магутнай, вялізнай машыны... закон, непарушаны закон жыцця... (М. Зарэцкі).

Успомнілі... зноў успомнілі, зладзеі... восем з палавінаю гадоў... Ах, сынок мой дарагі... (М. Чорт).

*Увага*. Калі прыводзяць цытату ў сярэдзіне сказу, дык шматкроп'е ставіцца перад цытатай.

*Двукосьсе* („ “).

**Правіла 71**. У двукосьсе ставіцца:

а) Чужая мова, прычым пункт ставіцца пасьля двукосься. У перарванай устаўным сказам чужой мове двукосьсе ставіцца толькі ў пачатку і на канцы.



Прыклады:

„Чаму? дазнацца мо і можна“, гаворыць дзядзька асцярожна (Я. Колас).

Гэй, хлопцы — гукнуў ён, накрыўшы галаву кашуляю — ідзеце сюды (Т. Гушча).

*Увага*. Калі запісваецца размова двух або болей асоб, дык звычайна ўжываюцца замест двукосься рыскі, якімі і аддзяляецца адна ад аднэй мова розных асоб.

б) Уласныя назвы літаратурных твораў, фабрык, заводаў і інш.

Прыклады:

Поэма Я. Коласа называецца „Новая Зямля“.
У Менску выходзіць газэта „Савецкая Беларусь“.
Гэта здарылася на гуце „Кастрычнік“.

а) Усе словы, якія ня лічацца сваімі, як узятыя з кніг, гіранічныя выразы і назвы і інш.

Прыклады:

Дзяцей у іх ня было, так што гэтыя „залатыя рукі“, як казалі аб ім суседзі, кармілі яго досыць шчодра (З. Бядуля).

*Коска* ( , ).

**Правіла 72.** Коска ставіцца ў сказе:

а) Паміж аднолькавымі членамі сказу, ня зьвязанымі злучнікамі. Калі-ж аднолькавыя члены сказу зьвязваюцца злучнікамі, коскі ня ставяцца.

Прыклады:

Раздаецца вясёлая, вольная песня.

То стогне то плача то дзіка рагоча, як быццам смяецца з нядолі людзкой.

Тут былі і старыя і малыя, бабы і дзеці.

На полі часцей сталі паказвацца людзі то з бараною то з сахою то з возам гною.

б) Перад злучнікамі „а, але, ды (у значэньні „але“)“.

Прыклады:

І журыць ня кроў у жылах, а халодны вецер... (А. Алекс.).
Конь запрэжаны, а ён хоча садзіцца вярхом.
Сонца яшчэ ня ўзыходзіла, але ўжо павеяла халадком.
Жыта злажылі, ды не надоўга.

в) Пры членах сказу, выдзеленых інтонацыяй.

Прыклады:

А я, брат, ня спаў усю гэтую ноч (Т. Гушча).
Ах ты, Нёман, рака (Ц. Гартны).
Эх, родная сталь—машына,
Беларускай рабочай звіні! (А Алекс.).
Гэй ты, крылаты вольны друк, цябе вітаю я (А. Алекс.).
Доўга, нават цэлыя годы, чуваць пах ляснога пажару.

г) Пры прыдатку, што вымаўляецца з інтонацыяй выдзеленага члена сказу.

Прыклады:

Грышка, хлопчык невялічкі, вышаў з дому ў поле.
Два браты, Алесь і Антон, згаварыліся пайсці ў грыбы.

д) Пры пабочным слове, ня зьвязаным з членамі сказу.

Прыклады:

Стары дзед не пачуў, мабыць, груку.
Нерэшце, надумаліся яны паглядзець, што гэта значыць.
А вясна, тымчасам, рабіла сваё.

е) Пры пабочных словах з адзнакамі сказу.

Прыклады:

Ён цяпер, мабыць, навекі чалавек фабрычны, чалавек машыны,

Пралетарыят, бясспрэчна, пераможа ўсіх сваіх ворагаў.
У дарозе, вядомая рэч, спачатку ня чуеш, што цяжка.
Ой, відаць, на навальніцу зранку прыпякае.
Ох, паплыў-бы я, здаецца, хмаркі разам з вамі.

ж) Пры зваротку з паясьняльнымі словамі.

Прыклады:

Ня кукуй ты, шэрая зязюля, сумным гукам у бары (М. Багдановіч).

з) Пры выклічных словах, калі пасьля іх не стаіць выклічнік.



Прыклады:

Ах, як стрэлка марудна ідзе.
Бы знарок хоча час працягнуць! (Ц. Гартны).
Эх, час касьбы, вясёлы час (Я. Колас).

*Увага.* Калі выклічнае слова цесна зьвязана ў вымаўленьні з іншымі словамі, дык коска ня ставіцца.

Прыклады:

Гэй ты, Нёман, быстры Нёман,
Колькі дум ты мне нагнаў! (Я. Колас).
Эх ты, разводздзейка, эх ты, бурлівае! (Я. Купала).

і) Пры дзеяпрыслоўных словазлучэньнях.

Прыклады:

Лес зноў расступаўся, даючы месца бясконца вялікім балотам (Т. Гушча).

Вышла маці ўслед за ёю,
Стала пры парогу
І, падпёршы твар рукою,
Глядзіць на дарогу (Я. Колас).

Цяжкія хмары паўзлі па шэрым небе і, выцягваючы свае лапы, падпаўзалі да сонца (Т. Гушча).

*Увага 1.* Дзеяпрыслоўі без даданых слоў коскамі не выдзяляюцца.

Прыклады:

Хто з вас гуляючы не ўзбягаў на круглыя горкі мурашніку?

Іду сабе гукаючы.

**Правіла 73.** Паміж сказамі коска ставіцца:

а) Калі сказы не аддзяляюцца адзін ад аднаго іншым знакам прыпынку.

Прыклады:

Варушыцца рака, падымаюцца яе грудзі, трасе яна сваімі плячмі.

Ня страшыць сцюжай там зіма, ні злых марозаў там няма, а краскі вечна там растуць, у гаях птушкі там пяюць.

б) Для аддзяленьня даданых сказаў ад галоўнага, усё роўна, ці стаяць яны перад галоўным сказам, ці пасьля яго.

Прыклады:

Добра ведаў стары дуб, што ўвесь сад ня меў вока на яго за тое, што карэнне забірала ад іх пажыву з зямлі (Т. Гушча).

Тымчасам пад зямлёй, дзе крэпка сплялося яго карэнне, жыло шмат маленькіх злоснікаў, каторыя дзень і ноч вялі пільную працу (Т. Гушча).

в) Для аддзяленьня няпоўных сказаў з злучнікамі „як, нібыта, як-бы, накшталт“ і інш.

Прыклады:

Хмары, як непрытомныя, паўзлі ўсё бліжэй к сонцу (Т. Гушча).

Як лёгкі дым, як лёгкі пар, расталі ў небе кучы хмар.
Спакою тут Міхал ня знае,
Як-бы на колы вада тая,
Ідзе ды йдзе Міхал ў абходы (Я. Колас).

*Кропка з коскай ( ; )*

**Правіла 74.** Кропка з коскай ужываецца паміж пашыранымі сказамі або пашыранымі часткамі сказу, як знак меншы за пункт і большы за коску.

Прыклады:

Неба праяснялася, падыхаў усходні вецер; лёгкі марозік чуць-чуць зацягваў лужынкі тонкаю плёнкаю лёду (Я. Колас).

Пот ліецца ручайком,
Смага забірае;
Я-ж вясёлая ўсё жну,
Жну ды падпяваю (Ц. Гартны).

*Злучок ( - ).*

**Правіла 75.** Злучок ужываецца:

а) Паміж дзьвёма часткамі складанага слова, калі адчуваецца націск на абедзьвюх частках.

Прыклады:

птушка-шчабятушка, хвоя-веліч, цёмна-сіні.

б) Паміж дзьвюма часткамі складаных прыназоўнікаў, або паміж паўторнымі прыслоўямі, што ўжываюцца для памацненьня.



Прыклады:

з-пад, з-за, па-над, па-за;
ледзь-ледзь, калі-нікалі, раз-по-раз.

в) Пры злучэньні розных дапаможных слоў і частак.

Прыклады:

нібы-та, як-бы, ішоў-бы, вось-як, што-месяц, што-вечар, што-дзень.

*Увага.* Вытворныя ад такіх злучэньняў прыметнікі пішуцца разам.

Прыклады:

штомесячны, штовячэрні, штодзённы.

*Націск ( ' ).*

**Правіла 76.** Націск ставіцца тады, калі слова можа ўжывацца з рознымі націскамі, прычым пры кожным націску мае новае значэньне, або калі слова малавядомае, і трэба дакладнае азначэньне яго вымаўленьня.

Прыклады:

| | | |
|---|---|---|
| вада̀ | — | ва̀да |
| вы̀клікалі | — | выклікàлі |
| ма́залі | — | мазалі̀ |

*Перанос слоў.*

**Правіла 77.** Пераносіць з радка ў радок можна кожны склад або групу складоў. Літарныя злучэньні „дз, дж“, калі яны азначаюць адзін гук, нельга разьдзяляць.

Прыклады:

я-ма, дум-ка, надзе-я,
гру-дзі, адра-джэнне.

# ЗАЎВАГІ

## да проекту беларускага правапісу паасобных членаў Правапіснай Камісіі.

*Заўвагі С. Некрашэвіча.*

Характэрнаю асаблівасьцю беларускага правапісу зьяўляецца фонэтычны прынцып, які паложаны ў яго аснову і даволі строга вытрыманы ва ўсіх яго разьдзелах.

Аднак фонэтычнаму прынцыпу нашага правапісу (а значыць і жывому вымаўленьню) катэгорычна супярэчаць прынятыя большасьцю членаў Правапіснай Камісіі некаторыя папраўкі да проекту; тым больш, што гэтыя папраўкі не знаходзяць сабе апраўданьня ні ў лёгкасьці ні ў мэханічнасьці пісьма, бо як раз гэтыя правілы ніякай цяжкасьці ў нашым правапісе не прадстаўляюць.

Наадварот, у мэтах спрашчэньня правапісу некаторыя правілы можна-б было свабодна выкінуць.

Конкрэтна мае заўвагі зводзяцца да наступнага:

**Правіла 2.** Увагу 2-ую да гэтага правіла можна зусім выкінуць і падпарадкаваць правапіс слоў з асноўным „я“ (не ў морфолёгічных канчатках) агульнаму правапісу аб яканьні. Такім чынам трэба пісаць дзѐв*е*ць, дзѐс*е*ць, зà*е*ц, мѐс*е*ц, *е*рынà і г. д.

Што-ж да правапісу прыслоўяў з канцовым „я“ (зàгадзя, зрàньня), то правапіс іх трэба перанесьці ў канец § 25.

**Правіла 3.** Увагу да гэтага правіла лічу непатрэбнай. Такім чынам трэба пісаць:

шассòт, сямсòт, васімсóт, дзевяцсòт.

шассòты, сямсòты, васімсóты, дзевяцсòты.

**Правіла 4.** Гэта правіла неабходна пакінуць у рэдакцыі Б. Тарашкевіча: „Галосная „у, і“ на пачатку слоў і асобна (ў якасьці прыназоўнікаў), калі папярэдняе слова канчаецца на галосны, пішуцца праз „ў, й“ (нескладовыя).

П р ы к л а д ы:

| | |
|---|---|
| старая ўдава | бацька ў лесе. |
| сын удавы | ён у хаце |
| мы йшлі | баба й дзед |
| Цімох ішоў | дзень і ноч. |

**Правіла 6.** Асаблівасьць адменна мяккага, сьвісьцячасычачага вымаўленьня беларускіх сьвісьцячых „з, с, ц, дз" перад мяккімі зычнымі і ётаванымі галоснымі катэгорычна вымагае, каб гэтыя гукі, як *гукі асобныя,* знайшлі на пісьме свой адбітак. Да вырашэньня пытаньня аб рэформе азбукі (як іх азначаць на пісьме) гэтае азначэньне можна перадаваць праз „ь". Зусім-жа не азначаць іх на пісьме — гэта значыць сьцерці адну з характэрных асаблівасьцяй беларускай мовы.

Аднак, пішучы „ь" пасьля мяккіх сьвісьцячых, няма ніякой патрэбы пісаць яго паміж так зв. мяккімі падвойнымі зычнымі, паколькі апошнія гукі фактычна зьяўляюцца не падвойнымі, а толькі працяжнымі зычнымі. Такім чынам правіла 6-ае павінна быць сфармулявана так: „Перад мяккімі зычнымі, за выключэньнем „г, к, х", і ётаванымі галоснымі „я, е, ю, ё" пасьля „з, с, ц (што з „т") і „дз" пішацца „ь".

Паміж так зв. мяккімі падвойнымі зычнымі „ь" ня пішацца.

П р ы к л а д ы:

зьняць, сьнег, сьвет, цьвет, дзьве, дзьверы;
зьява, зьяе, зьезд, разьюшаны

але:

скінуць, згінуць, схіліць;
вяселле, здарэнне калоссе, сьмецце,
асенні, рыззё, суддзя, разводдзе, аддзел (або судздзя, разводздзе).

**Правіла 7.** У адпаведнасьці з правілам 6 павінна быць зьменена і правіла 7: „Пасьля цьвёрдых „б, п, м, р, д" перад ётаванымі галоснымі пішацца апостраф (').

П р ы к л а д ы:

| | |
|---|---|
| б'ю | п'ю |
| сям'я | пер'е |
| ад'езд | пад'есьці |

**Правіла 59.** У адпаведнасьці з правіламі 6 і 7 таксама павінна быць зьменена і правіла 59, якое мусіць быць фармулявана так: „У чужаземных словах „ь" пішацца перад ётаванымі галоснымі пасьля „л, н, з, с". Пасьля іншых галосных пішацца апостраф (').



П р ы к л а д ы:

павільён, рэльеф, Мальер, каньюгацыя,
Жусье; аб'ект, кур'ер.

**Правіла 20.** Кіруючыся жывым вымаўленьнем і часткова практыкай украінскага правапісу гэта правіла трэба фармуляваць так: „Прыназоўнік „у" перад словамі, што пачынаюцца з ненаціскнога „а", разьвівае „в", якое прыстаўляецца да наступнага сло́ва і аддзяляецца ад яго апострафам; перад словамі, што пачынаюцца з „у" або зычнымі, прыназоўнік „у" часамі пераходзіць у „ува" (ўва, ва).

П р ы к л а д ы:

у в'агні̀, у в'ахво́ту, у в'адры̀не,
у в'Аўдо̀цці, у в'Адэ̀се; але: у вачо̀х, у вакнѐ
(у апошніх двох прыкладах „в" цесна зраслося з словамі).
у ўдавы̀, у Ўладысла̀ва, у се́не

але:

ува ўсі̀х, ува сьнѐ, ува мне́.

Апрача таго, лічу патрэбным дапоўніць проект наступнымі двума правіламі:

а) Чужаземныя іменьнікі мужчынскага роду з суфіксам „іст" скланяюцца, як іменьнікі, а ня прыметнікі.

П р ы к л а д ы:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **Наз. скл. адз. л.** | камуніст | | камуністы | |
| **р. с.** | камуніста | | камуніста | |
| **д. с.** | камуністу | або: | камуністу | |
| | і г. д. | | і г. д. | |
| **Наз. скл. мн. л.** | камуністы | | камуністы | (як наз. адз. л.). |
| **р. с.** | камуністаў | | камуністаў | |
| | і г. д. | | і г. д. | |

б) Словы ня́ма, ня́хай, восем, у адпаведнасьці да агульна-беларускага вымаўленьня, трэба пісаць ні́ма̀, ні́ха̀й, во́сі́м.

*Заўвагі Янкі Купалы.*

З формуляванымі С. Некрашэвічам папраўкамі да правіл 3, 4, 6, 7, 20 і 59 проекту цалком згодзен.

*Заўвагі Я. Лёсіка і Я. Коласа.*

**Правіла 1-ае.** Галосныя *о — э* пішуцца толькі пад націскам. Не пад націскам на месцы этымолёгічных *о — э* пішацца літара *а* напр.:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| дом | — | дамы̀ | цэны | — | цана̀ |
| стол | — | сталы̀ | рэкі | — | рака́ |
| горы | — | гара̀ | шэпча | — | шапта̀ць |
| горад | — | гарады̀ | шчэбет | — | шчабета́ць |
| жолуд | — | жалуды̀ | чэрап | — | чарапы̀ |

**Правіла 2-ое.** На месцы ненаціскных галосных *е — ё* пішацца літара *я* толькі ў першым складзе перад націскам, калі ў націскным складзе няма *а (я)*. Ва ўсіх іншых выпадках пішацца этымолёгічнае *е* як перад націскам, так і посьле націску, за выключэньнем тых разоў, што паказаны ў правіле 25-м напр.:

| | | | |
|---|---|---|---|
| лес | — | лясы̀ | весна̀, сестра́, земля̀, беда̀, |
| серп | — | сярпы̀ | нема́, нехаѝ, сем'я, спева̀ць, |
| вѐліч | — | вялѝкі | пеяць, лежа́ць, смеяцца, |
| сёлы | — | сяло́ | селя̀не, селянін, цецярук |
| сёстры | — | сястры̀ | нешыро́кі, невядо̀мы, непрывётна |
| на зямлі̀, ня ем | | | невучо́ны, чыта́е, гуля̀е, бялѐе, |
| ня бы̀ў, мянѐ, цябе́ | | | ве́цер, во̀сень, вы̀ехаць, |
| ягò, бяз іх і г. д. | | | не ва̀ш, не на̀ш, без на̀с і г. д. |

*Увага.* 1) „Не" і „без" у такіх разох лічыцца за склад таго слова, перад якім яны стаяць.

2) Да гэтага правіла не належаць тыя выпадкі, калі *я* перад націскам і посьле націску стаіць на месцы этымолёгічнага ненаціскнога *я*, як напр.: *вяза̀ць, дзѐсяць, дзѐвяць, по̀яс, за̀яц, мѐсяц, ты̀сяча.*

**Правіла 13, 14, 15, 16 і 17.** Усе гэтыя правілы дзеля прастаты і практычнасьці трэба злучыць у адно, сфармуляваўшы яго так:

„Злучэньні двух зычных, калі першы належыць да асновы, а другі да суфікса, запісваюцца нязьменна (этымолёгічна)". Напрыклад:

1) злучэньні *сч* і *зч* (бач. прав. 14-ае):

перапісчык, разносчык,
прыказчык, паказчык і г. далей.



2) злучэньні *шс, жс, зс* (бач. прав. 15-ае):

| | | замест: |
|---|---|---|
| чэх | чэшскі | чэскі |
| валох | валошскі | валоскі |
| таварыш | таварышскі | таварыскі |
| „ | таварышства | таварыства |
| птух | птушства | птуства |
| многа | множства | мноства |
| убогі | убожства | убоства |
| прыгожы | прыгожства | прыгоства |
| Парыж | парыжскі | парыскі |
| Рыга | рыжскі | рыскі |
| Прага | пражскі | праскі |
| француз | французскі | францускі |
| Каўказ | каўказскі | каўкаскі |
| кіргіз | кіргізскі | кіргіскі |
| Прусія | прускі | прусскі |
| Русь | рускі | русскі |

У такіх разох, як відаць з прыкладаў, канцовыя асноўныя гукі *г — х* перад суфіксам „ск" або „ст" падмяняюцца гукамі *ж — с*, а канцовае асноўнае „с" зьліваецца з суфікcальным „с" *(рускі* замест *русскі)*.

Пры такім напісаньні ня трэба таго выключэньня, якое зроблена да 14-га правіла ў форме ўвагі такога зьместу: „У дзеяслоўных формах на „ся" злучэньні *шс — жс* пішуцца этымолёгічна", г. зн. трэба пісаць: ***мыешся, чэшашся, круцішся, не парэжся*** замест ***мыесься, чэшасься, круцісься, не парэсься*** і г. д.

3) злучэньні *дс* і *тс* (бач прав. 15-ае і 16-ае), як злучэньні *дч* і *тч* (бач прав. 18-ае), запісваюцца этымолёгічна:

| | | *замест:* | або |
|---|---|---|---|
| люд | людскі | людзкі | люцкі |
| горад | гарадскі | гарадзкі | гарацкі |
| сусед | суседскі | суседзкі | |
| след | следства | следзтва | |
| брат | братскі | брацкі | |
| „ | братства | брацтва | |
| студэнт | студэнтскі | студэнцкі | |
| „ | студэнтства | студэнцтва | |
| марксіст | марксістскі | марксыцкі і г. д. | |

але:

| | |
|---|---|
| бальшавік | бальшавіцкі |
| меншавік | меншавіцкі |
| сваяк | сваяцкі, сваяцтва |
| прымак | прымацкі, прымацтва |

| | |
|---|---|
| ткач | ткацкі, ткацтва |
| купец | купецкі, купецтва |
| грэк | грэцкі і г. д. |

Пры этымолёгічным напісаньні паказаных злучэньняў зычных ня трэба будзе і таго выключэньня, што зроблена ў правіле 9-м для лічэбнікаў 11 — 20 і 30. Калі мы пішам:

| | |
|---|---|
| кладка | кладцы |
| загадка | загадцы |
| суседка | суседцы |
| рэдзька | рэдзьцы і г. д., |

то трэба пісаць і — *адзінадцать, дванадцать, трынадцать, шаснадцать* або *шастнадцать, двадцать, трыдцать* і г. д.

На аснове правіла 17-га трэба пісаць не *аб'ежчык*, як паказана ў прыкладах на правіла 14-ае, а — *аб'езд — аб'ездчык*, а таксама: *мужчына, нябожчык*.

Гэтак сама дзеля прастаты і аднастайнасьці можна было-б злучэньні трох зычных — *стн — здн—стн—рдн* пісаць нязьменна, не выкідаючы сярэдняга зычнага, як паказана ў правіле 10-м і як практыкавалася дагэтуль. Захаваньне сярэдняга карэннага зычнага ў злучэньні трох зычных часам патрэбна бывае ў пісьменнай мове для слоў мала вядомых або новатвораў („*абвестны* лад", Тарашкевіч, граматыка 1918 г.; *костная* мука і падб.).

Такім парадкам, з усіх правіл на правапіс злучэньняў зычных трэба прызнаць правіла 8-ае, 9-ае 10-ае, 11-ае і 12-ае. Рэшта правіл — ад 13-га да 17-га лёгка злучаются ў адно, як гэта паказана вышэй.

**Да прав. 25.** 1) У канчатках творн. скл. адз. л. усіх трох радоў трэба пісаць *я: локцям, гаям, аленям; палям, пытанням, здарэнням, веццям*; *лазняю — лазняй, доляю — доляй, гаспадыняю — гаспадыняй* і г. далей.

2) У формах парн. ліку пішацца *е*: дзьве *асьміне, бяро̀зе*; тры *ха́це* і г. д.

3) У формах прыслоўяў меснага склону: пэ̀ўне, слу̀шне, по́сьле (але пасьля̀) і г. д.

**Правіла 34-ае.** Дзеясловы 1-га спражэньня ў першай асобе множн. ліку з націскам на канцы маюць форму на — *ом* (без зьмякчэньня папярэдняга зычнага ), пасьля *ёта — ём*, а не пад націскам на — *ем* (пасьля зацьвярдзелых зычных — *ам*):

| | |
|---|---|
| нясом | бу́дзем |
| кладом | по̀йдзем |
| ідом | ця̀гнем |
| вязом | со̀хнем |
| плывом | чыта̀ем |
| плятом | гуля̀ем |
| пяком | пішам |
| запрагом | кажам |
| бяром | рэ̀жам |
| памром | мо̀жам |
| п'ём, б'ём, пяём | |



**Правіла 40-ае.** На канцы чужаземных слоў ненаціскное *о* таксама передаецца літараю *а*, але канцавое ненаціскное *ё* ў некаторых словах застаецца, напр.:

| | | |
|---|---|---|
| інкогніта | нэта | солё |
| брута | какава | трыё |
| франка | радыё | і г. далей. |

*Заўвагі В. Ластоўскага.*

**Правіла 58-ае.** У чужаземных словах „ь" перад ётаванымі галоснымі пішацца пасьля „л", „н"; пасьля іншых зычных пішацца апостраф, напр.: павільён, каньяк; кур'ер.

**Да правіла 1.** Літара *о* бывае толькі пад націскам. Не пад націскам на месцы ненаціскнога этымолёгічнага *о* пішацца ўсюды *а*.

| | |
|---|---|
| дом | дамы̀ |
| хорт | харты̀ |
| бок | бакі̀ |
| корч | карчы̀ |

*Увага I.* У складаных словах кожная складовая часьць утрымлівае свой лёгічны націск

чорнавокі
кроваток
мораход

*Увага 2.* Словы, у якіх зьліліся складовыя часткі, падпарадкуюцца агульнаму правілу аб аканьні:

мядзьвѐдзь
канава̀л
гарапа̀шнік

**Да правіла 2.** Ненаціскныя галосныя *э — е* пераходзяць у *а — я* толькі ў першым складзе перад націскам, калі ў націскных складох няма *а — я*. Ва ўсіх іншых палажэньнях застаюцца *э — е*.

| | | |
|---|---|---|
| рэка̀ | ракі̀ | серабро́ |
| земля̀ | зямлі̀ | шчэбета̀ць |
| бяда̀ | бяды̀ | дзерэвя̀ны |
| не́мец | нямѐцкі | дзевя̀ты |
| весна̀ | вясно̀й | дзеся̀ты |

| | | |
|---|---|---|
| **селя̀не** | сяло̀ | перабѐг |
| чэ̀рап | чарапы̀ | селядцы̀ |

*Не* і *без* лічацца за склад таго слова, перад якімі яны стаяць, і падлягаюць папярэдняму правілу.

**Правіла 3** выкінуць, — яно падпарадкуецца правілу 1.

**Да правіла 5** (увага 2). Гук *з* у прыназоўніках (з, без, цераз, уз, раз) застаецца і перад глухімі як пры аддзельным, так і пры зьлітным напісаньні.

**Да правіла 6.** Замест мяккага знаку над літарамі „з с, „ц“ пісаць рыску „´“: з́няў, с́піць, с́нег, ц́мяна, мярц́вец.

**Да ўвагі правіла** 8. У лічэбніках 11, 20 і 30 захоўваем этымолёгічнае *д* (з дзесяць).

адзінадцаць
двадцаць
трыдцаць

**Правілы 9 і 13 злучыць.** Пры злучэньнях *ск, сч, зч* захоўваецца аснова слова.

| | | |
|---|---|---|
| пяскі | — | пясчаны |
| воск | — | васчына |
| трэск | — | трэсчаць |
| вазіць | — | возчык |
| прыказ | — | прыказчык |
| паказ | — | паказчык |
| пісаць | — | перапісчык |

**Правілы 14, 15, 16 і 17 злучыць.** Захоўваючы аснову слоў, дадаваць суфіксы *скі, ства, чык*

| | | |
|---|---|---|
| таварыш | — | таварышскі |
| француз | — | французскі |
| Прага | — | пражскі |
| Рыга | — | рыжскі |
| Каўказ | — | каўказскі |
| брат | — | братскі |
| студэнт | — | студэнтскі |
| марксіст | — | марксістскі |
| горад | — | гарадскі |
| с́лед | — | с́ледства |
| пераплёт | — | пераплётчык |
| загад | — | загадчык |
| газэта | — | газэтчык |

*Заўвагі Ў. Чаржынскага.*

**Да правіла 1.** Гэта правіла належыць формуляваць так: „Галосныя *о — э, ё* пішуцца толькі пад націскам. Не пад націскам на месцы этымолёгічных *о — э* пішацца *а*, а на мецы *ё* літара *е*.

**Да правіла 2.** На месцы ненаціскных галосных *е, ё* ва ўсіх выпадках пішацца этымолёгічнае *е* як перад націскам, так і пасьля націску.

*Увагу 1* да гэтага правіла зусім выкінуць.

**Да правіла 6.** Так зв. мяккія падвойныя зычныя пісаць праз адну літару, як напр.: вяселе, раля, леcца; здарэне, насене, сумлене; калосе, валосе, касё; смеце, жыцё; судзя.

**Да правіла 13.** Злучэньні „сч“ і „зч“ пры спалучэньні асновы з суфіксамі заўсёды запісваць праз *шч*, напр.:
перапішчык, прыкашчык, аб‘ешчык.

**Да правіла 15.** Злучэньні „тс, кс, цс, чс, дс“ у суфіксах з „ск, ств“ пішуцца праз „ц“: брацкі, гарацкі, люцкі і г. д.

**Да правіла 16.** Гэта правіла зусім адпадае (гл. прав. 15).

**Да правіла 25.** Наз. скл. множ. ліку ў прыметніках мае ў канчатку *ые (іе)*: добр*ые*, сін*іе*.

**Да правіла 27.** Іменьнікі ў месным склоне адзін. ліку маюць:

1) Пры цьвёрдай аснове ва ўсіх радох—*е*; напр. на стал*е*, на галав*е*, на дуб*е*, на дароз*е*, у слов*е* і г. д.

2) Пры зацьвярдзелай і мяккай аснове ў мужч. і ніякім радох маюць: *ы* (і) або *у* (ю); напр.:

на канц*ы* і на канц*у*;
у бар*ы* і у бар*у*;
на мор*ы* і на мор*у*;
на кан*і* і на кан*ю*;
у га*і* і у га*ю*.

3) Пры зацьвярдзелай і мяккай аснове ў жан. родзе маюць *ы (і)*, напр.: на печ*ы*, у лазн*і*.

*Увага.* Пры аснове на „к“ у муж. і ніякім родзе маюць „ц“, а ў жан. пад націскам маюць „э“; бяз націску — *ы*, напр.: у руцэ, у рацэ; аб воўк*у*, у вок*у*; на лаўц*ы*, у шапц*ы*.

**Да правіла 33.** Родны склон адзіночнага ліку жан. роду мае канчатак *ой, ай* ( у поэзіі дапушчаецца і „ое, „ае“):
стар*ой*, чырвон*ай*.

# ЗЬМЕСТ.



---

## Памылка друку.

| Надрукована: | | | Трэба: |
|---|---|---|---|
| Стар. 16 | Радок 14 зьв. | рэдзка-рэдзчына | рэдзька-рэдзьчына |